

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (42), 2004 КРЫЖАЎЗВЫШЭНЬНЕ

*«Крыж узвышаецца сёньня, і сьвет асьвячаецца: бо на ім Ты, Хрысьце, што сядзіш разам з Айцом і Духам Сьвятым, рукі свае распасьцёр і прывёў усіх да пазнаньня Цябе. Зрабі годнымі Боскае славы нас, якія спадзяемся на Цябе».*

(Экзапастыляр Ютрані на Крыжаўзвышэньне)

## Папа сустрэўся з Патрыярхам Барталамеем I

***Важная экуменічная сустрэча Папы Яна Паўла II і Ўсяленскага Патрыярха Барталамея I адбылася 29 чэрвеня 2004 году ў Апостальскім палацы Ватыкану.***

У гэты дзень Рымская Царква адзначае патранальнае сьвята ў гонар вярхоўных апосталаў Пятра і Паўла. З гэтай нагоды на плошчы сьв. Пятра была адслужана ўрачыстая сьв. Імша. Падчас яе Першаярархі сумесна ўзначальвалі Літургію Слова Божага.

Варта адзначыць, што ў апошнія гады назіралася напружанасьць у стасунках паміж Цэрквамі. Шчырыя абдымкі Рымскага Архірэя і Зьверхніка Канстанцінопальскага Патрыярхату, які з часоў Візантыйскай імперыі лічыцца ў праваслаўным сьвеце «першым сярод роўных», сымбалізавалі магчымасьць еднасьці ўсіх хрысьціянаў.

У сваёй прамове Сьвяты Айцец нагадаў, што 40 гадоў таму, у студзені 1964 году, у Ерусаліме адбылася гістарычная сустрэча паміж Папам Паўлам VI і Канстанцінопальскім Патрыярхам Атэнагорам I, падчас якой яны абмяняліся братэрскімі абдымкамі. «Гэтыя абдымкі сталі сымбалем жаданага прымірэньня паміж Каталіцкай і Праваслаўнай Цэрквамі, а таксама прадчуваньнем надзеі наблізэньня да поўнай еднасьці ўсіх хрысьціянаў»,— сказаў Сьвяты Айцец.

Канстанцінопальскі Патрыярх у сваю чаргу памаліўся ля магілы папы Паўла VI у Саборы сьвятога Пятра. Тым самым ён падкрэсьліў вялікую ролю, гэтага Пантыфіка ў справе прымірэньня з праваслаўнымі, калі разам з Атэнагорам I прыняў рашэньне забыць узаемныя праклёны Цэркваў, якія цяжарылі над імі з 1054 году.

Працяг тэмы гл. на с.15. ⇨

• Рым, 29.06.2004, плошча сьв. Пятра. Сьвяты Айцец Ян Павел II разам з Усяленскім Патрыярхам Барталамеем I узначальваюць Літургію Слова Божага (у рамках сьв. Імшы) з нагоды патранальнага сьвята Рымскай Царквы — сьв. Апосталаў Пятра і Паўла.

# Слова Апостальскага Візітатара

## «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-католікаў Беларусі

### З нагоды прызначэньня новага Апостальскага Нунцыя ў Беларусі

## мансіньёра Марціна Відавіча

*Шаноўныя Айцы,*
*Любыя ў Госпадзе Браты й Сёстры —*
*Сыны й Дочкі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы!*

**1** У дзень 15 верасьня Сьвяты Айцец Ян Павел II прызначыў новым Апостальскім Нунцыем у Беларусі мансіньёра Марціна Відавіча.

Новы кіраўнік прадстаўніцтва Апостальскай Сталіцы ў Менску нарадзіўся ў Харватыі ў 1953 годзе. Быў рукапакладзены ў сьвятары ў 1989 годзе й служыў у дыяцэзіі Спліт — Макарска ў Харватыі.

У 1983-1994 гадах ён быў кіраўніком Харвацкай Рэдакцыі Радыё Ватыкан, а ў 1994 годзе перайшоў на службу ў Дзяржсакратарыят Апостальскай Сталіцы.

Таксама яму давялося працаваць на адказнай пасадзе ў Босьніі і Герцагавіне, дзе ён зьяўляўся сакратаром Апостальскай Нунцыятуры.

Разам з прызначэньнем на пост Апостальскага Нунцыя ў Беларусі Сьвяты Айцец намінаваў мансіньёра Марціна Відавіча архібіскупам тытулярнага пасаду Нона (Нін) у Далмацыі. Ягоная біскупская хіратонія адбудзецца ў найбліжэйшы час.

**2** З вялікай радасьцю прымаем новага Прадстаўніка Сьвятога Айца ў Беларусі як прыяцеля нашае Краіны і ў малітве хочам даверыць Госпаду ягонае пастырскае і дыпламатычнае служэньне ў нашай Бацькаўшчыне.

Гэтым блаславаляю ўсіх душпастыраў парафіяў БГКЦ, каб у найбліжэйшую нядзелю — 19 верасьня адслужылі ў даручаных ім парафіях Боскую Літургію ў інтэнцыі новага Апостальскага Нунцыя ў Беларусі мансіньёра Марціна Відавіча.

Вернікаў нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы прашу, каб у гэтыя дні асабліва памяталі ў сваіх малітвах пра новага Прадстаўніка Сьвятога Айца ў Менску.

*Праз малітвы Багародзіцы*
*і ўсіх Сьвятых Заступнікаў Беларускага Народу*
*хай Госпад захавае новага Апостальскага Нунцыя ў нашай Краіне*
*ў здароўі ды Сваёй Апецы «на многія леты!»*

**+ Архімандрыт Сяргей ГАЕК**
+ архім. Сяргей Гаек **Апостальскі Візітатар**
*Рым — Менск, 15 верасьня 2004 году*

# Пачаўся працэс беатыфікацыі

## Беларускіх мучанікаў айцоў-марыянаў


*Архімандрыт Фабіян Абрантовіч*

***Нядаўна быў афіцыйна распачаты працэс далучэньня да ліку блаславёных выдатнага беларускага душпастыра і грамадзка-культурнага дзеяча айца Фабіяна Абрантовіча, які родам Навагрудка. Працэс распачаты па ініцыятыве Каталіцкай Царквы ў Расеі, паколькі архімандрыт Фабіян з 1928 па 1939 год працаваў Апостальскім Адміністратарам сярод расейскіх эмігрантаў у Харбіне (паўночна-ўсходні Кітай).***

Сёлета, на сьвята Крыжаўзвышэньня, 14 верасьня 2004 году, прыпадаюць **120-ыя ўгодкі** з дня нараджэньня айца архімандрыта Фабіяна Абрантовіча. Гэты выдатны сьвятар стаў адным з пачынальнікаў беларускага каталіцкага руху, быў ахвярным працаўніком на ніве духоўнага й нацыянальнага адраджэньня Беларусі, вядомы як выдатны тэолаг, публіцыст і педагог. У 1939 годзе ў Львове, вяртаючыся з Бацькаўшчыны ў Харбін, куды ён быў пасланы Апостальскай Сталіцай для місійнай працы ва ўсходнім абрадзе, яго застала вайна, і ён трапіў у турму НКВД, адкуль ужо ня выйшаў. Нязломлены, ён памёр як мучанік у маскоўскай Бутырскай турме ў 1946 годзе.

Сярод навамучанікаў, якія будуць абвешчаныя блаславёнымі разам з айцом Фабіянам Абрантовічам, ёсьць яшчэ адзін беларус, паплечнік айца Ф.Абрантовіча, выдатны рэлігійны і грамадзкі дзеяч айцец архімандрыт Андрэй Цікота (1891-1952), які ў свой час быў Генералам Ордэну Марыянаў.

Віцэпастулатарам працэсу зьяўляецца айцец Вячаслаў Пялінак з беларускага Дому Марыянаў у Друі. Менавіта гэты беларускі манаскі асяродак айцоў-марыянаў у свой час заснаваў а. Андрэй Цікота, да якога пазьней далучыўся таксама і а. Фабіян Абрантовіч.


*Архімандрыт Андрэй Цікота*

# Усьлед за Хрыстом

19 жніўня 2004 году, на сьвята Перамяненьня (па юльянскім календары) у мястэчку Кахавіна (сучасная назва Гніздычыў) на Львоўшчыне, дзе месьціцца манастыр сьв. Герарда Айцоў Рэдэмптарыстаў візантыйскага абраду, у старажытнай царкве Покрыва Найсьвятой Багародзіцы, адбылася ўрачыстасьць з нагоды папаўненьня манаскай супольнасьці, званай у гонар Найсьвятога Выбавіцеля, новымі маладымі братамі, якія вырашылі пайсьці ўсьлед за Хрыстом і прысьвяціць сваё жыцьцё служэньню Богу ды працягу Яго місіі Адкупленьня.

Сярод маладых братоў-рэдэмптарыстаў, якія склалі манаскія зарокі, быў таксама й першы беларус Алесь Нікалаеў (з Берасьця), а цяпер брат Апалінар.

Брат Апалінар ужо два гады знаходзіцца ў Айцоў Рэдэмптарыстаў. Амаль год ён правёў у кандыдатуры, дзе знаёміўся з манаскім жыцьцём і яго патрабаваньнямі. Пасьля году выпрабаваньня ў навіцыяце ён склаў першыя часовыя манаскія абеты на адзін год. Цяпер яго чакаюць багаслоўскія студыі ў Айцоў Рэдэмптарыстаў.


*• Брат Апалінар складае манаскія абеты.*

Шчыра радуемся за нашага брата Апалінара й верым, што Маці Божая Нястомнай Дапамогі будзе для яго Правадніцаю і Апякункаю на абраным ім шляху.

# Новы дакумент пра лёс Экзарха Антона Неманцэвіча

***У распараджэньні гісторыкаў, якія дасьледуюць біяграфію беларускага грэка-каталіцкага экзарха а. Антона Неманцэвіча (SJ), зьявіўся новы каштоўны дакумент. Зусім нядаўна, 24 жніўня 2004 году, яго адшукаў у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь гісторык нашай Царквы, рэферэнт Сакратарыяту Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Яўген Усошын з Менску.***

Гэты дакумент напісаны па-нямецку і ўяўляе сабой даклад ад 14 студзеня 1943 году камандзіра паліцыі бясьпекі і СД у Менску Генеральнаму камісару акругі Беларусь Вільгельму Кубэ адносна абставінаў сьмерці й месца пахаваньня Экзарха Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі Антона Неманцэвіча. Дакумент выяўлены ў фондзе дакументаў Генеральнага камісарыяту Беларусі.

*Каштоўнасьць дакументу ў тым, што ў ім упершыню падаецца канкрэтная дата й месца сьмерці беларускага Экзарха — 6 студзеня 1943 году, Менск, а таксама дата й месца пахаваньня — 9 студзеня 1943 году, нямецкія могілкі ў Менску. Падаецца таксама і прычына сьмерці — сардэчна-сасудзістая недастатковасьць, якая наступіла пасьля перанесенага тыфу.*

Дагэтуль існавала некалькі розных версіяў адносна прычыны, даты й месца сьмерці Экзарха. Сярод прычынаў сьмерці называліся як тыф, так і расстрэл або сьмерць у выніку катаваньняў. У апошні час дасьледчыкі схіляліся да версіі, паводле якой беларускі грэка-каталіцкі Экзарх быў закатаваны ў берлінскай турме на мяжы 1942-1943 гг.

Рэдакцыя газеты «Царква» зьвярнулася да дасьледчыка Яўгена Усошына з просьбай пракаментаваць знаходку і даць аналіз гэтага дакументу. Найперш ён адзначыў, што пры пошуку дакументу дапамагла кніга дасьледчыка Ярмусіка Э.С. «Католический костел на Беларуси в годы второй мировой войны» (Гродно, 2002).

Адшуканы дакумент пра Экзарха А.Неманцэвіча трапіў у фонд 370 дакументаў Генеральнага камісарыяту Беларусі ў архіўную справу «Перапіска з акружнымі камісарыятамі і служыцелямі рэлігійнага культу пра ідэалагічнае выхаваньне мясцовага насельніцтва і па пытаньнях царквы» (ф. 370, воп. 1, спр. 2 , арк. 5). Гэты фонд дакументаў Генеральгага камісарыяту Беларусі сфармаваўся з захопленых савецкім войскам дакументаў. Прыкладным часам фармаваньня фонду можна лічыць 1945 год. Пазьней некаторыя дакументы з яго былі прыбраныя. Яны, як напісана ў каментары, не стасаваліся фондаўтваральніка. Некаторыя дакументы былі туды дададзеныя ў 1950-1960-ых гадах з архіву Міністэрства ўнутраных справаў. (Якія менавіта — невядома). Больш у каментары пра зьмены ў фондзе не напісана; праўдападобна, што яны не адбываліся. У каментары падаецца, што часам зьмест справаў не зусім адпавядае пазначанаму (трапляюцца дакументы зусім не па тэме). Але перафармаваньне фонду не было праведзена, паколькі яго ўжо палічылі распрацаваным (напэўна, маецца на ўвазе ў дасьледчыцкім сэнсе) і, напэўна, дзеля таго, каб не заблытацца ў адсылках, яго не перафармоўвалі. Тым больш, што пэўная колькасьць дакументаў была сабрана «россыпам».

Даклад шэфа паліцыі бясьпекі і СД у Менску ад 14 студзеня 1943 году знаходзіцца на старонцы пятай, нумарацыя старонак не парушана. Адносна выгляду самога дакументу: на ім прысутнічае рэгістрацыйны штамп канцылярыі Генеральнага камісарыяту з пазначанай на ім датай — 21 студзеня 1943 году. Сярод іншых дакументаў у Генеральны камісарыят прысутнічае такі самы штамп. Дакумент падпісаны оберштурмбанфюрэрам СС без пазначэньня пасады і расшыфроўкі яго прозьвішча. Падобнае сустракаецца і сярод іншых дакументаў досыць часта (а можа, нават і пераважае сярод такіх дакладных запісак). Можна думаць, што подпіс на дакуменце належыць Эдуарду Штраўху, бо менавіта ён быў камандзірам паліцыі бясьпекі і СД у Менску ў гэты час.

Экзарх а. Антон Неманцэвіч быў арыштаваны ў сваёй сядзібе ў Альбярціне нямецкімі гестапаўцамі з СД у Баранавічах у хуткім часе па вяртаньні з Львову, дзе ён браў удзел у III Саборы экзархаў Грэка-Каталіцкай Царквы. Найбольш верагодная дата арышту — 4 ліпеня 1942 году.


Der Kammandeur
der Sicherheitspolizei und des SD
- Weißruthenien -

Abt. III Schl/Se.

Minsk, den 14.Januar 1943

Der Generalkommissar
21. JAN. 1943

An
den Herrn Generalkommissar
für Weißruthenien
in M i n s k

Betr.: Niemancewicz, Exarch der griechisch-unierten Kirche in Weißruthenien.

Vorg.: Ohne.

Niemancewicz mußte aus sicherheitspolizeilichen Gründen von Slonim nach Minsk überführt werden. Am 30.11.42 erkrankte er an Fleckfieber. Obwohl er diese Krankheit selbst überstand, blieb sein Zustand bedenklich. Wegen der Bedeutung seiner Person wurde er in das Revier des Kommandeurs der Sicherheitspolizei und des SD Weißruthenien gebracht. Hier verstarb er am 6.1.43 an Herz- und Kreislaufschwächeim Anschluß an seine Fleckfiebererkrankung.

Niemancewicz wurde am 9.1.43 auf dem deutschen Friedhof in Minsk durch Priester der hiesigen orthodoxen Kirche begraben.

SS-Obersturmbannführer.

Камандзір
Паліцыі бясьпекі і СД
- Беларусь -

Аддзел III Schl/Se.

*Мінск, 14 студзеня 1943*

Спадару Генеральнаму камісару
Беларусі
ў Мінску

<u>У дачыненьні:</u> Неманцэвіч, Экзарх грэка-ўніяцкай Царквы ў Беларусі.

<u>Папярэдняя згадка:</u> няма.

З меркаваньняў паліцыі бясьпекі Неманцэвіч мусіў быць пераведзены з Слоніму ў Мінск. 30.11.42 ён захварэў на сыпны тыф. Хоць ён і сам перанёс гэтую хваробу, стан ягоны выклікаў занепакоенасьць. Зважаючы на значэньне ягонай асобы, ён быў дастаўлены ў штабкватэру камандзіра паліцыі бясьпекі і СД Беларусі. Тут ён памёр 6.1.43 ад сардэчна-сасудзістай недастатковасьці, якія наступілі пасьля сыпнога тыфу.

Неманцэвіч быў пахаваны 9.1.43 на нямецкіх могілках у Менску сьвятаром мясцовай праваслаўнай Царквы.

*(Подпіс)*
Оберштурмбанфюрэр СС

Яе падае Вацлаў Пануцэвіч, які ў час вайны працаваў у баранавіцкім СД, да яе ж схіляецца гісторык Сяргей Ёрш.

Адносна прычыны сьмерці можна адзначыць наступнае: вынікае, што сапраўды айцец Антон Неманцэвіч мог захварэць на сыпны тыф. У свой час айцец Леў Гарошка, намесьнік Экзарха, сьцьвярджаў, што а. Антон хварэў на тыф яшчэ ў дзяцінстве й меў імунітэт на яго, таму бязбоязна хадзіў у лагеры савецкіх ваеннапалонных у Слоніме, дзе ў той час была эпідэмія тыфу. Зважаючы на гэтую акалічнасьць, а. Леў Гарошка лічыў, што немцы проста спрабавалі схаваць такім чынам сваё злачынства. Але ў медычных энцыклапедыях сьцьвярджаецца, што, з аднаго боку, імунітэт пасьля тыфу сапраўды выпрацоўваецца, а з другога — што паўторна захварэць на яго можна не раней чым праз год. Таму айцец Антон Неманцэвіч у турме сапраўды мог захварэць, бо прайшло шмат часу. Нягледзячы на тое, што ў другі раз хвароба пераносіцца лягчэй, трэба браць пад увагу цяжкі турэмны рэжым. Акрамя таго, сапраўды, як падаецца ў знойдзеным дакуменце, пасьля тыфу як ускладненьне можа быць сардэчна-сасудзістая недастатковасьць. Працяг на с.15 ⇨

# Польскія багасловы выказаліся ў падтрымку патрыярхату УГКЦ

***Пад патранатам Камісіі польскага епіскапату для вышэйшай асьветы 12-15 верасьня ў Люблінскім каталіцкім універсітэце праходзіў VII Кангрэс польскіх багасловаў. Асаблівасьцю гэтага форуму стала запрашэньне на яго вялікай групы багасловаў з Украіны, Беларусі, Расеі і Літвы, што надало яму міжнароднае значэньне.***

Арганізацыяй сёлетняга форуму, у якім бралі ўдзел прадстаўнікі звыш 30 тэалагічных установаў Еўропы, багасловы хацелі засьведчыць, што для багаслова павінна быць месца ў сучаснай Еўропе, хоць у Канстытуцыі Еўразьвязу ня хочуць вызнаваць, што Еўропа мае хрысьціянскую аснову.

Значны рэзананс на Кангрэсе выклікалі выступы грэка-каталіцкіх багасловаў з Украіны а.Івана Гаваньё, рэдактара часопісу «Багаслоўе» і а. Міхайла Дымыда, які ўзначальвае Украінскае багаслоўскае навуковае таварыства. У выніку абмену думкамі сярод удзельнікаў форуму ўзьнікла ініцыятыва прыняць Дэкларацыю салідарнасьці з багасловамі Украіны. У ёй выказана ўдзячнасьць «братам-багасловам візантыйскай традыцыі» за ўдзел у Кангрэсе польскіх багасловаў у Любліне, а таксама выказана спадзяваньне на аднаўленьне й разьвіцьцё іхняй хрысьціянскай ідэнтычнасьці, укаранёнай у спадчыне Хрыстовае Царквы. У гэтым багасловы бачаць актуальны знак часу, «які, дзякуючы ўзаемаразуменьню і салідарнасьці, будзе спрыяць дасягненьню поўнай эклезіяльнасьці, што ў кантэксьце ўсходняе традыцыі азначае патрыярхат».

У працы Кангрэсу польскіх багасловаў брала ўдзел дэлегацыя БГКЦ на чале з Апостальскім Візітатарам архім. Сяргеем Гаекам — доктарам багаслоўя, доктарам Усходніх Царкоўных Навук, членам-карэспандэнтам Папскай Міжнароднай Марыйнай Акадэміі, дасьледчыкам духоўнасьці і літургіі Усходніх Цэркваў.

# Сьвяты Айцец пра ўдзел хрысьціянаў у палітыцы

***Удзел хрысьціянаў у палітыцы стаў цэнтральнай тэмай пасланьня Яна Паўла II, з якім ён зьвярнуўся да ўдзельнікаў міжнароднай акцыі «Сацыяльныя тыдні», што праходзіла ў французскім горадзе Ліль з 23 па 26 верасьня 2004 году.***

Падобныя «Сацыяльныя тыдні» праводзяцца штогод. Яны ўяўляюць сабой форум, удзельнікі якога разважаюць і абменьваюцца думкамі па важных грамадзкіх пытаньнях у сьвятле Евангельля. Штогадовыя сесіі форуму адкрытыя для ўсіх, нават для атэістаў. Тэма акцыі гэтага году: «Еўропа: супольнасьць, якую трэба стварыць». Сьпецыяльнае пасланьне Рымскага Архірэя да ўдзельнікаў зачытаў яго асабісты прадстаўнік на форуме кардынал Ражэ Эчэгарэй.

«Для хрысьціянаў вельмі важна прытрымлівацца сваіх поглядаў у палітыцы,— адзначае ў сваім пасланьні Сьвяты Айцец.— Я заклікаю вас не пакідаць сваёй місіі ў гэтай сферы і заўсёды знаходзіць сувязь паміж Евангельлем, боскай і апостальскай традыцыяй, навукай Царквы і тымі выбарамі і рашэньнямі, якія вы пакліканы прымаць». Паводле словаў Рымскага Архірэя, з самога пакліканьня хрысьціяніна вынікае неабходнасьць бескарысьлівага служэньня сваім братам дзеля стварэньня больш дастойнай чалавека цывілізацыі.

У сваім звароце Папа таксама заклікае хрысьціянаў-палітыкаў удзяляць асаблівую ўвагу моладзі. «Неабходна гарантаваць ім ня толькі атрыманьне адукацыі, але й перадачу каштоўнасьцяў ды надзеі; змагацца з некаторымі формамі паводзінаў, якія мы назіраем сёньня, такімі, як самагубства і наркаманія»,— адзначыў ён. «Маладыя людзі чакаюць падтрымкі ад дарослых, каб бяз страху глядзець у будучыню. Пры гэтым галоўная мэта — пакінуць ім духоўную і маральную спадчыну»,— падкрэсьліў Ян Павел II.

# Папа ўручыў узнагароду кардыналу Сьвёнтаку

***27 верасьня 2004 году Папа Ян Павел II падчас адмысловай аўдыенцыі ў Апостальскай Рэзыдэнцыі ў Кастэль Гандольфа ўручыў кардыналу з Беларусі Казіміру Сьвёнтаку ордэн «Fidei Testis» ( «Сьведка веры»). Гэтая ўзнагарода архібіскупу Менска-Магілёўскаму прысвоена Інстытутам Паўла VI у Брэшыі (Італія).***

Ва ўрачыстасьцях з гэтай нагоды бралі ўдзел кардыналы Джавані Батыста Рэ, Поль Пупар і Жорж Гацье. У аўдыенцыі браў удзел таксама канцлер Пінскай рыма-каталіцкай курыі а. Станіслаў Паўліна і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Падчас уручэньня ўзнагароды Сьвяты Айцец адзначыў: «Зьвяртаючыся да Эмінэнцыі, дастойны і дарагі Кардынале, прагну выказаць самыя шчырыя віншаваньні з нагоды гэтай прэстыжнай ўзнагароды. Тытул «Fidei Testis» найболей за іншыя ўласьцівы для хрысьціяніна; тым больш для Пастыра, адоранага кардынальскай пурпурай, які ў цяжкія гады перасьледу Царквы ва Усходняй Еўропе даў вернае і сьмелае сьведчаньне Хрысту і Яго Евангельлю». Папа Ян Павел II нагадаў, што сьвятарскія сьвячаньні кардынал Сьвёнтак атрымаў перад самым выбухам II Сусьветнай вайны, а праз два гады распачаў свой крыжовы шлях перасьледаваньняў, калі, «салідарны з davераным яму людам, узяў на свае плечы крыж зьняволеньня, несправядлівага выроку, лагероў з іх непасільнай працай, холадам і голадам». «Гэтыя выпрабаваньні перятрываў, дзякуючы веры. Госпад адарыў Айца Кардынала моцнай і адважнай верай, каб перамагчы доўгія і цяжкія выпрабаваньні, пасьля якіх ён вярнуўся да супольнасьці Царквы як яшчэ большы сьведка Евангельля: Fidei Testis»,— падкрэсьліў Сьвяты Айцец.

Перад цырымоніяй уручэньня ўзнагароды кардынал Сьвёнтак перадаў Папу новы поўны «Рымскі імшал» у перакладзе на беларускую мову. Гэтае выданьне — важны крок на шляху ўвядзеньня беларускай мовы ў літургічнае жыцьцё Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

# ЗАГІНУЎ ПАТРЫЯРХ ПЁТР VII

***11 верасьня 2004 году ў выніку катастрофы верталёту над Эгейскім морам загінуў Папа і Патрыярх Александрыйскі Пётр VII, зьверхнік праваслаўных хрысьціянаў Афрыкі.***

Ваенны верталёт, на якім ляцеў на Афон патрыярх, належаў міністэрству абароны Грэцыі, ім кіравалі 4 вопытныя члены экіпажу. Праз 20 хвілінаў палёту ў ідэальных умовах надвор'я верталёт раптоўна зьнік з экранаў радараў. Катастрофа адбылася так хутка, што пілоты не пасьпелі нават падаць сігнал бяды. Разам з Патрыярхам Пятром VII на борце знаходзіліся яшчэ 12 пасажыраў, сярод якіх былі: брат патрыярха, патрыяршы сакратар, патрыяршы архідыякан, мітрапаліт Картагенскі Хрызастом і мітрапаліт Мадагаскарскі Някtары.

Паводле словаў Першаярарха Эладзкай Царквы архібіскупа Хрыстадула, Патрыярх Пётр VII (грэк-кіпрыёт паходжаньнем), быў ня толькі самы малады з кіраўнікоў праваслаўных Цэркваў, але й «адным з самых дзейных, які літаральна ўзараў Афрыканскі кантынент». Ён быў 115-ым патрыярхам Афрыкі.

Александрыйская Царква самая старажытная з 15 праваслаўных Цэркваў сьвету (заснавана апосталам і евангелістам Маркам) ды другая па годнасьці пасьля Канстанцінопальскага Патрыярхату. Сёньня да яе належыць каля 5 млн. вернікаў па ўсёй Афрыцы. З даўніх часоў яе зьверхнікі, як і біскупы Рыму, насілі тытул Папаў.

У сувязі з трагедыяй Папа Рымскі Ян Павел II накіраваў ліст Сьвятому сіноду Александрыйскай Праваслаўнай Царквы, у якім выказаў свае шчырыя спачуваньні: «Трагічная сьмерць Патрыярха Пятра VII выклікала глыбокі смутак і шкадаваньне як у Царквы-сястры Александрыйскага патрыярхату, так і ў Біскупа Рымскага ды ўсёй Каталіцкай Царквы, а таксама ва ўсіх, хто цаніў служэньне Патрыярха — Царкве ў Афрыцы і хрысьціянскай еднасьці»,— гаворыцца ў пасланьні Сьвятога Айца.

Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) 13 верасьня ва ўніверсітэцкай царкве ў Любліне саслужыў Боскую Літургію за супакой Патрыярха Пятра VII, яе ўзначальваў Біскуп Каламыйска-Чарнавіцкай япархіі УГКЦ Кір Уладзімір (Вйтышын).

# ДУХАВЕНСТВА РАСЕЙСКАЙ ЦАРКВЫ ВІЗАНТЫЙСКАГА АБРАДУ ПРАВЯЛО САБОР

***Як паведамілі ў Прэс-сакратарыяце Зьверхніка УГКЦ, 23-25 жніўня 2004 году расейскае грэка-каталіцкае духавенства правяло свой Сабор у Сібіры (там парафіі афіцыйна зарэгістраваны). У Саборы прынялі ўдзел протапрасьвітар Сяргей Галаванаў, ігумен Расьціслаў Калупаеў, ігумен Пііп Майзераў (МСВВ), ераманах Аліпій Мядзьведзеў (МСВВ), ераманах Кірыла Міронаў.***

На Саборы зацьвердзілі выканальніка абавязкаў экзарха Расейскай Каталіцкай Царквы візантыйскага абраду. Згодна з Кодэксам канонаў Усходніх Цэркваў, у выпадку, калі пасад экзарха вакантны, кіраўніцтва Царквой пераходзіць да протасінкела, а калі і яго няма — да старэйшага па хіратоніі параха парафіі. Такім чынам, экзархам Расейскай Царквы візантыйскага абраду стаў а. Сяргей Галаванаў. Ён апякуецца дзьвюма парафіямі: у Омску, дзе аснову грамады складаюць украінцы, і ў пасёлку Саргацкае Омскай вобласьці, дзе афіцыйна зарэгістравана расейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых Кірылы і Мятода.

Удзельнікі Сабору накіравалі Зварот да Сьвятога Айца Яна Паўла II, Папы Рымскага, і паведамленьне Яго Блаславенству Патрыярху Ігнату, Прэфекту Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, пра ўнясеньне папраўак у пункт пра статыстычны стан экзархату Расейскай Царквы візантыйскага абраду.

Экзархат Расейскай Грэка-Каталіцкай Царквы быў заснаваны мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім у 1917 годзе на падставе нададзеных яму Папам Піем X паўнамоцтваў. Першым экзархам расейскіх грэка-католікаў быў а. Леанід Фёдараў, які пазьней атрымаў таксама паўнамоцтвы на часовае кіраваньне жыцьцём беларускіх католікаў візантыйскага абраду на тэрыторыі Ўсходняй Беларусі. У 2002 годзе ў Львове Папа Рымскі Ян Павел II абвясьціў Экзарха Леаніда Фёдарава блаславёным мучанікам.

# СЬВЯТА ІКОНЫ, ЯКАЯ ЯДНАЕ

***Грэка-каталіцкая парафія ў Кастамлотах, што знаходзіцца за 15 км ад Берасьця на маляўнічым беразе памежнага Бугу, у нядзелю, 12 верасьня 2004 году адзначала ўрачыстасьці ў гонар свайго патрона сьвятога Мікіты.***

Гэты рымскі жаўнер жыў больш за 1600 гадоў таму ў ваколіцах сучаснай Адэсы, што на Чорным моры, і стаў мучанікам за веру ў Ісуса Хрыста. З 1631 году, ад часу заснаваньня парафіі ў Кастамлотах, ён зьяўляецца Апекуном гэтай уніяцкай парафіі і вёскі.

На старой, але па-ранейшаму цудоўнай унікальнай іконе захаваўся надпіс на старабеларускай мове: «Гэтую ікону для храму Божага ў Кастамлотах разам з мужам і сынамі падаравала 4 верасьня 1631 году Хвядора з Прылукаў: няхай гэта будзе на чэсьць і славу Божую». У тыя часы Кастамлоты былі шчыльна зьвязаныя з сярэднявечным Берасьцем, і зусім верагодна, што ікону сьв. Мікіты фундатарка з Прылукаў, якія знаходзяцца на беларускім баку р. Буг, пад Берасьцем, замовіла ў аднаго з майстроў-іканапісцаў з Берасьця. Таму, гэтая ўнікальная ікона можа быць адной з нешматлікіх ацалелых памятак сярэднявечнага Берасьця.



Вось ужо многія гады патранальнае сьвята велікамучаніка Мікіты зьяўляецца добрай нагодай для сумеснай малітвы хрысьціянаў — грэка-католікаў, рыма-католікаў і праваслаўных з Польшчы, Беларусі і Украіны.

Сёлета, падчас патранальнага сьвята, 12 верасьня 2004 году, адзначаўся таксама падвойны юбілей шматгадовага душпастыра Кастамлотаў — архімандрыта Рамана Пенткі, марыяніна: 50-годдзе служэбе Богу ў Ордэне Марыянаў і 40-годдзе сьвятарскага служэньня (37 гадоў з іх — у Кастамлотах).

Сьвяточную Боскую Літургію ўзначаліў грэка-каталіцкі мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі Кір Ян Мартыняк у саслужэньні Юбіляра архімандрыта Рамана і архімандрыта Сяргея (Апостальскага Візітатара беларускіх грэка-католікаў). Разам з імі служылі: два беларускія грэка-каталіцкія сьвятары (з Берасьця — а. Ігар Кандрацьеў і з Віцебску — а. Зьміцер Грышан), расейскі грэка-каталіцкі ераманах Кірыла Міронаў з Масквы і украінскі грэка-каталіцкі сьвятар з Любліна а. Сьцяпан Батрух, а таксама лацінскія сьвятары з Тэрэспаля, Кодэня, Любліна, Гарадла ды з Італіі (з гораду Ла Спэцыя).

Сярод дастойных гасьцей сьвята ў Кастамлотах былі прадстаўнікі адміністрацыі ваяводзтва, павету і гміны ды таксама Спадарыня Консул Польскай Рэспублікі з Берасьця.

Пашана да ўнікальнай уніяцкай іконы, якая 373 гады таму была падаравана ў Кастамлоты з Прылукаў, што пад Берасьцем, і сёньня яднае ў супольнай малітве за мір і згоду вернікаў розных канфесіяў і народаў-суседзяў, тым самым спаўняючы запавет берасьцейскай фундатаркі пабожнай Хвядоры, каб ікона служыла «на чэсьць і славу Божую».

# Біскупы Ўсходу і Захаду ў Папы

***17 верасьня 2004 году Ян Павел II прыняў на аўдыенцыі ў Кастэль Гандольфа групу 130 апошніх высьвячаных біскупаў усходняй і заходняй традыцыі. Іх спатканьне ў Рыме было арганізавана дзьвюма Кангрэгацыямі: Біскупаў і Ўсходніх Цэркваў.***

Сьвяты Айцец адзначыў, што падобныя спатканьні біскупаў розных абрадаў, якія даз-валяюць некалькі дзён пражыць разам у духу глыбокага братэрства, спрыяюць узаемнаму пазнаньню і пачуцьцю адзінства паміж памеснымі Цэрквамі, а таксама згоднаму клопату біскупаў пра аўчарню Госпада, якой яны мусяць служыць.

За словамі з свайго настаўленьня *«Pastores gregis»* Папа паўтарыў, што еўхарыстыя зьяўляецца сэрцам абавязку сьвятасьці біскупа, і пажадаў, каб Год Еўхарыстыі, які распачнецца ў Царкве 10 кастрычніка адначасова з адкрыцьцём Міжнароднага Еўхарыстычнага Кангрэсу ў Гвадалахары, «быў боскай нагодай для яшчэ большага паглыбленьня падставовага значэньня гэтага сакраманту ў жыцьці і дзейнасьці кожнай памеснай Царквы».

«Няхай вакол алтара ўмацоўваюцца сувязі братэрскай любові і няхай ажывае ва ўсіх, хто верыць, сьвядомасьць прыналежнасьці да адзінага Народу Божага, пастырамі якога зьяўляюцца біскупы»,— сказаў Сьвяты Айцец. Ён таксама зьвярнуў увагу, што заданьнем біскупаў ёсьць чуваньне над адпраўленьнем сьвятых Тайнаў і Божага культу наогул. Яны павінны дбаць, каб чаканьні вернікаў адносна годнага адпраўленьня службы Божай ніколі не былі выстаўлены на імправізацыю або выпадковасьць. «Бо Літургія зьяўляецца вялікай школай хрысьціянскага жыцьця, дзе ўшаноўваюць, праяўляюць любоў і пазнаюць Госпада і дзе ўмацоўваецца воля насьледаваць Настаўніку, а таксама гатоўнасьць даць уласнае годнае сьведчаньне»,— адзначыў Папа.

Рымскі Архірэй заклікаў біскупаў, каб былі сьвядомыя, што паслуга сьвятасьці патрабуе сьведчаньня сьвятога жыцьця. «Дух Божы, які асьвяціў вас з моманту біскупскай хіратоніі, штодзённа чакае ад вас велікадушнага адказу. Вашая сьвятасьць ня ёсьць чымсьці выключна асабістым, яна заўсёды ўвасабляецца ў дабро верных»,— падкрэсьліў Ян Павел II.

Напрыканцы сустрэчы Папа заахвоціў біскупаў Усходу і Захаду, каб «падтрымлівалі пры алтары полымя любові да Хрыста», і пажадаў, каб Марыя, «Еўхарыстычная Нявеста» ды заступніцтва апосталаў і сьвятых біскупаў падтрымлівалі іх крокі і іх служэньне. Усім біскупам ён удзяліў таксама сваё апостальскае блаславеньне.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў AGNUZ, KAI, Прэс-службы Зьверхніка УГКЦ, «Портала -Credo.Ru» ды іншых праявых крыніцаў.*

# Міжнароднае спатканьне ў Францыі ў Супольнасьці «Эмануэль»

***Францыя... Загадкавая і незвычайная для мяне краіна. Усё жыцьцё марыла там пабываць, але ня думала, што такую паездку ўдасца ажыцьцявіць. Заўсёды спынялі вялікія матэрыяльныя затраты.***

***Але ў тых справах, што не па сілах зрабіць чалавеку, на дапамогу прыходзіць Госпад. Яго воля была, каб я з 7 па 12 жніўня 2004 году знаходзілася ў Парэ-ле-Маніалі, дзе ў гэты час праходзіла Міжнародная сесія брацтва "Эмануэль".***

З Беларусі на сесіі ў Францыі мы, прадстаўнікі БГКЦ, былі ўчатырох: парах грэка-каталіцкай грамады ў Віцебску а. Зьміцер Грышан, яго жонка Інэса, іх сын Аляксей і я.

На шляху да мэты нашага падарожжа паўставала нямала праблемаў. Але Бог заўсёды дапамагаў нам іх вырашыць. Напрыклад, што да візаў (па якія хадзілі 3 дні), мы атрымалі іх бясплатна і датэрмінова, бо за нас горача маліліся браты й сёстры з Супольнасьці "Эмануэль".


• Харызматычная ранішняя малітва.

Затым была паездка на аўтамабілі з Менску да Варшавы. Цяжкая дарога, бо айцу Зьмітру давялося весьці машыну ўсю ноч. Адтуль едзем праз Нямеччыну на аўтобусе разам з польскай групай, якая чакала нас 4 гадзіны. Малітвы і рэлігійныя сьпевы падтрымлівалі нашы сілы праз усю дарогу. Больш за суткі доўжыўся наш шлях з Варшавы ў Францыю.


• Айцец Зьміцер Грышан з вернікамі ля старажытнай базылікі Нотр Дам.

І вось, нарэшце, уязджаем на тэрыторыю краіны маёй мары. За вокнамі аўтобуса бачым зялёныя лясістыя горы і белых каровак на сакавітых лугах.

Гарадок Парэ-ле-Маніаль сустрэў нас пякучым сонцам (на тэрмометры каля 35) і ветлівымі ўсьмешкамі французаў на вуліцах. Сюды зьехаліся хрысьціяне з самых розных куткоў сьвету: з Польшчы і Славеніі, Аўстрыі і Славакіі, Гвадэлупы і Конга, Украіны і Беларусі...

Кожны дзень распачынаўся харызматычнымі ранішнімі малітвамі ў капліцы, зробленай з тэнтаў. Затым адбываліся канферэнцыі. Найбольш запомнілася канферэнцыя на тэму: «Месца і роля хрысьціянаў у сучасным сьвеце». Пасьля канферэнцыяў адбывалася імша ў лацінскім абрадзе, якую саслужылі сьвятары з усяго сьвету. Гэтая адметнасьць кожны дзень надавала літургіі асаблівую сьвяточнасьць і ўрачыстасьць. Зьдзівіла мяне тое, што прычасьце сьвятары ўдзялялі не толькі традыцыйным спосабам, а, пераважна — на рукі вернікам.

Смачны абед, праца ў групах, нешпары (вячэрнія малітвы) ў старажытнай базыліцы Нотр Дам (XII стагоддзе). Шкада, што мы ня ведалі французскае мовы. Усю інфармацыю даводзілася ўспрымаць на польскай.

На форуме цёпла сустрэлі Апостальскага візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея (Гаека). Ён падараваў ікону і прывітаў усіх удзельнікаў. У капліцы сьвятой Марыі-Маргарыты была адслужана грэка-каталіцкая літургія. Капліца славутая тым, што ў XIX ст. манахіні Марыі-Маргарыце тут явіўся Ісус Хрыстос. На галоўнай іконе капліцы ў цэнтры — укрыжаваны Ісус, а справа ад Яго — сьвятая Марыя-Маргарыта. Айцец Сяргей узначальваў сьв. Літургію ў візантыйскім абрадзе, разам з ім саслужылі яшчэ 4 сьвятары з розных краінаў. Падчас службы гучала беларуская, украінская, польская і французская мовы. Цудоўна па-царкоўнаславянску сьпяваў інтэрнацыянальны хор, арганізаваны Інэсай Грышан з Віцебску і Давідам з Польшчы, які ўзяў на сябе адказную ролю кіраўніка.

Хочацца расказаць таксама аб працы ў групах. Нашую маленькую супольнасьць утварылі, акрамя мяне і куратара Сафіі з Францыі, тры сямейныя пары: а. Зьміцер і Інэса Грышан (разам з сынам), Алекс і Дар'я з Гвадэлупы, Драга й Сара з Славеніі. У групе мы маліліся адзін за аднаго, дзяліліся досьведам веры, уражаньнямі ад перажытага падчас сесіі, разважалі над радкамі з Евангельля. Напачатку ўзьнік моўны бар'ер. Цяжка было кантактаваць. Славенцы Сара й Драга з замежных моваў ведалі толькі ангельскую, Алекс і Дар'я з Гвадэлупы — французскую, у нас, беларусаў, былі цяжкасьці і з адной, і з другой мовай. Толькі ў нашага куратара Сафіі не было праблемаў з веданьнем гэтых моваў. Але Госпад дапамог нам паразумецца. Пасьля яшчэ знайшоўся перакладчык Пётра з Польшчы й справы наладзіліся.

Цікавым і запамінальным было знаёмства з айцом Мячыславам, які апекаваўся намі ў Польшчы і ў Францыі. Ён падараваў нам зборнік сваіх вершаў. Вось адзін з яго твораў, які называецца «УСЬМЕШКА».

*Усьміхніся!*
*Навошта?*
*Бо так трэба!*
*Для каго?*
*Для неба!*

Хутка праляцелі шчасьлівыя дзянькі. Прыйшла пара вяртацца з казкі ў рэальнасьць. У жыцьцё, напоўненае праблемамі. Але, на дзіва, вярнуцца на Радзіму хацелася.

Па дарозе дадому ў Варшаве нас гасьцінна прытуліла на начлег сям'я Пятра і Уршулі. А на самай мяжы з Беларусьсю мы завіталі ў каталіцкую парафію ўсходняга абраду ў Кастамлотах, якой апякуецца сябра нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы марыянін а. Раман Пентка. Тут мы памаліліся ў мясцовай царкве.

І вось Беларусь, Менск. Да роднага Віцебску ўжо зусім блізка. Бывай, Францыя! Жадаю кожнаму пабываць тут!

Хочацца падзякаваць усім, хто зрабіў магчымым гэтае падарожжа ў Францыю: найперш — слава Госпаду, шчыры дзякуй нашым душпастырам Архімандрыту Сяргею Гаеку і а. Зьмітру Грышану, братам з Супольнасьці «Эмануэль» з Польшчы, якія ўзялі на сябе выдаткі на нашае ўтрыманьне, і ўсім добрым людзям, якія сустрэліся на нашым шляху.


• Сьв. Літургія ў візантыйскім абрадзе.

**Сьвятлана Пчолкіна**
*г.Віцебск*

# Дарога жыцьця БГКЦ





***Сёлетняя пілігрымка з Віцебску ў Полацак у гонар Полацкіх мучанікаў-базыльянаў, закатаваных расейскім царом Пятром І, адбывалася з 7 па 11 ліпеня 2004 году і была ўжо дзясятай па ліку. Завершылася яна ўрачыстасьцямі ў Полацку з нагоды 10-годдзя працы манахаў-студытаў у Беларусі.***

Удзел у пілігрымцы бралі беларускія грэка-католікі з Віцебску, Полацку, Менску, Магілёву, Горадні, Ліды, Берасьця, Баранавічаў, Пінску, Івацэвічаў, а таксама ўкраінскія ды расейскія грэка-католікі (сьвятары, манахі, семінарысты й вернікі). Паломніцкі шлях сьв. Язафата з Віцебску ў Полацак сёлета адолелі больш за 80 вернікаў. Сярод пілігрымаў як ніколі шмат было моладзі, а гэта значыць — наша Царква жыве й разьвіваецца, у яе ёсьць будучыня.

Акрамя традыцыйнай малітвы за праслаўленьне Полацкіх мучанікаў у гэтым годзе пілігрымы адмыслова маліліся за пасьпяховае завяршэньне працэсу перарэгістрацыі грэка-каталіцкіх парафіяў у Беларусі ды за ўсіх, хто да гэтага спрычыніўся. Таксама вернікі ўзносілі свае малітвы за сьвятароў і семінарыстаў нашае Царквы, за праслаўленьне Слугаў Божых біскупа Зыгмунта Лазінскага, архімандрытаў-мучанікаў Фабіяна Абрантовіча і Андрэя Цікоту, а таксама за беларускага грэка-каталіцкага экзарха Антона Неманцэвіча. Сваімі малітвамі пілігрымы атулілі й зьверхніка Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі кардынала Казіміра Сьвёнтака, які ў гэтым годзе адзначае свой ужо 90-гадовы юбілей ды 65-годдзе сьвятарскага служэньня.





# Манахі-студыты адзначылі 10-годдзе сваёй працы ў Беларусі

***У нядзелю, 11 ліпеня 2004 году, у Полацкім Барысаглебскім манастыры ўдзельнікі пілігрымкі ў гонар Полацкіх мучанікаў далучыліся да сьвяткаваньня 10-годдзя працы ў Беларусі манахаў-студытаў.***

У ліпені 1994 году ў старажытны Полацак прыехалі першыя манахі на чале з айцом Валерыем Алексійчуком (цяпер ён — айцец Бенядзікт, ігумен манахаў-студытаў).

Варта таксама адзначыць, што ў Заходняй Беларусі яшчэ ў міжваенны час працавалі манахі-студыты з Галіцыі (а. Януары Федзюк, а. Нікадзім Стэцура ды інш.). Студыты тады мелі нават свой манаскі дом на Мярлінскіх хутарах (Столінскі р-н) і апекаваліся мясцовай каталіцкай парафіяй усходняга абраду. Таму сёньня, напэўна, больш слушна гаварыць пра аднаўленьне працы ў Беларусі манахаў-студытаў.

Сёньня студыты займаюцца душпастырствам у грэка-каталіцкай парафіі ў Полацку, якая названа ў гонар сьвятамучаніка Язафата. І ў справе аднаўленьня ў Беларусі культу шанаваньня гэтага беларуска-ўкраінскага сьвятога ёсьць немалая заслуга айцоў-студытаў. Менавіта манахі-студыты запачаткавалі пілігрымку з Віцебску ў Полацак у гонар Полацкіх мучанікаў, якую называюць сёньня «дарогай жыцьця Беларускай-Грэка-Каталіцкай Царквы», а таксама пачалі выдаваць беларускую грэка-каталіцкую газету «Царква». Да супольнасьці манахаў студыйскага ўставу сёньня належаць ужо чацьвёра беларусаў, трое з іх склалі малую схіму. Сярод айцоў-студытаў ёсьць таксама й два беларусы — а. Пахом (Кавалёў) і а. Лявонці (Тумоўскі).



• *Ігумен студытаў а. Бенядзікт (Алексійчук)*

## Летнік «Мост надзеі»

***На працягу двух апошніх тыдняў ліпеня 2004 г. дзеці з Полацкай грэка-каталіцкай парафіі сьвятапакутніка Язафата, а таксама з сацыяльна незабясьпечаных сем'яў гасьцілі ва Ўкраіне. Галоўнай мэтай паездкі быў удзел ва ўкраінска-беларускім летніку «Мост надзеі».***

Летнік праходзіў у мястэчку Ярэмча, што ў Карпатах. Ён быў арганізаваны пры падтрымцы ўкраінскай дыяспары ў Канадзе і дзякуючы руплівай працы ўкраінскіх Сясьцёр-Служэбніц. Сумесны адпачынак стаўся цудоўнай магчымасьцю ўмацаваць хрысьціянскія братэрскія сувязі беларускіх і ўкраінскіх дзяцей, даў ім магчымасьць цікава й карысна правесьці час з Богам.

Беларускія ўдзельнікі летніку выказваюць усім арганізатарам сваю шчырую ўдзячнасьць.

# Разважаньні на Ружанец

*Абудзі, мая цытра, свае песьні ў гонар Дзевы Марыі!*
*Узьнясі голас і засьпявай гімн Гары Давідавай, што нарадзіла Жыцьцё*
СЬВ. АХРЭМ СІРЫЙСКІ

*Улюбёныя ў Госпадзе браты і сёстры!*

*У мінулых нумарах газеты мы зьмясьцілі разважаньні на І і ІІІ часткі малітвы Ружанцу: на радасныя таямніцы (над імі разважаем у панядзелак і суботу) і таямніцы сьвятла (разважаем у чацьвер). У наступным нумары будуць зьмешчаны разважаньні на слаўныя таямніцы малітвы Ружанцу (серада і нядзеля). А гэтым разам падаем разважаньні да часткі ІІ — балесных таямніцаў, якія прамаўляем у аўторак і пятніцу.*

*Пра структуру малітвы Ружанцу мы пісаць ня будзем (хто ня ведае — глядзіце ў нашым малітоўніку «Цябе, Бога, хвалім»), а скажам толькі пра самыя разважаньні. Да кожнае таямніцы мы падаем адпаведны ўрывак з Евангельля, тэкст Сьвятых Айцоў (альбо іншых царкоўных аўтараў пераважна з І-VII стст.), малітву з царкоўнай богаслужбовай традыцыі (пераважна гэта трапары і кандакі, якія сьпяваюцца падчас Боскае Літургіі) і кароткае падсумаваньне, якое хутчэй можна назваць намерам, у якім можна памаліцца. Выкарыстоўваць гэтыя чатыры часткі разважаньняў можна так, як вам будзе зручней: можна браць толькі нешта адно, напрыклад, малітву ці Евангельле, падчас кожнае таямніцы; можна браць па 2 альбо 3 элементы (напрыклад, напачатку Евангельле, а пасьля тэкст Сьвятых Айцоў); можна браць і ўсе 4 часткі разважаньняў, пры чым у той пасьлядоўнасьці, якая вам больш адпавядае, а неабавязкова так, як падаем мы. Гэтая малітва залежыць ад вас, бо гэта — Вашая малітва.*

## Частка ІІ. Балесныя таямніцы

### 1. МАЛІТВА ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА Ў АЛІЎНЫМ САДЗЕ

***І. Евангельле Лк 22:39-46***

***ІІ. Тэкст Айцоў***

«Госпад, калі заклікаў вучняў чуваньнем і малітваю перамагаць цяжкую спакусу, што набліжалася да іх, зьвярнуўся да Айца, просячы Яго гэтымі словамі: «Ойча Мой, калі гэта магчыма, хай абміне мяне гэты келіх, але не як Я хачу, але як Ты» *(Мц 26:39)*. Першая частка гэтае просьбы — гэта праява слабасьці (чалавечай), другая — доказ сілы (Божай). У прагненьні (помачы) адгукнулася ў ім нашая істота, а ў гатовасьці (падняць цярпеньні) — Ягоная уласная. <...>



Нам жа гэты прыклад, бяз доўгіх разважаньняў, паказаў, што і мы можам чагосьці прасіць (у Бога) у нашых бедах, але Той, Хто хоча нас ацаліць, неабавязкова павінен гэта адразу выканаць. Бо мы ня ведаем «пра што маліцца, як трэба» *(Рым 8:26)*, і невыкананьне нашых жаданьняў пераважна выходзіць на нашую карысьць. Такім чынам справядлівы і добры Бог менавіта тым аказвае нам Сваю дабрыню, што не выслухоўвае такіх просьбаў, якія б нам маглі зашкодзіць.

Таму і ўзмацняў нас Госпад сваёю малітвай, каб нашыя прагненьні скіравалі ва ўласьцівым кірунку».

/СЬВ. ЛЕЎ ВЯЛІКІ/

***ІІІ. Малітва — Стыхіра канону ютрані Вялікай Пятніцы***

*Атрасіце сон з павекаў вашых,— Ты, Хрысьце, сказаў вучням сваім.— Трывайце ў малітве, каб не паддацца спакусе. Асабліва ты, Сымоне, бо выпрабаваньне цяжэйшае для моцных. Зразумей, Пётра, што ўсё стварэньне бласлаўляе і славіць Мяне праз усе вякі.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы малітву Госпада нашага Ісуса Хрыста ў Аліўным садзе, зьвернем увагу на сваю ўласную малітву: на яе рэгулярнасьць і працягласьць, на нашае прагненьне яе і нашую ўвагу на ёй. Малітва павінна быць цэнтрам жыцьця хрысьціяніна і ежай для ягонай душы.

Памолімся за нас усіх і за сябе асабліва, каб малітва заняла належнае ёй месца ў нашым жыцьці, каб мы палюбілі яе і ўсё ў жыцьці рабілі з ёю на вуснах: пачыналі новы дзень і заводзілі той, што прайшоў, пачыналі і заканчвалі кожную працу, вырушалі ў дарогу і сустракалі гасьцей, і ўвогуле давяралі Яму ў малітве ўсе свае пачуцьці, перажываньні й справы. Ды каб на працягу дня кожны з нас знаходзіў час на ціхую ўласную размову з Госпадам, бо менавіта ў гэтым і ляжыць сутнасьць сапраўднае малітвы.

### 2. БІЧАВАНЬНЕ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

***І. Евангельле Ян 18:38-19:1***

***ІІ. Тэкст Айцоў***

«Нарадзіўся Госпад чалавекам,
І быў асуджаны, каб зьмілавацца над людзьмі,
зьвязаны быў, каб разьвязаць,
бічаваньне перацярпеў, каб прабачыць,
дзеля цябе перанёс сьмерць на крыжы,
каб вызваліць цябе ад граху,
памёр на крыжы, каб крыжам цябе ажывіць,
пахаваны быў, каб уваскрасіць цябе,
бо Госпад пакутаваў падобна да людзей
і падабенствам гэтым
былі зьнічтожаныя слабасьці
і сьмерцю зьнішчаная [Сьмерць нашая]».

/СЬВ. МЕЛІТОН З САРДЫКУ/

***ІІІ. Малітва — Стыхіра ютрані Вялікай Пятніцы (Тон 6)***

*Плечы мае Я аддаў на катаваньне, твару Майго не адвярнуў ад аплявухаў, стаў на судзе перад Пілатам і Крыж пацярпеў для збаўленьня сьвету.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы бічаваньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, узгадайма тых, хто ў нечым пакрыўдзіў нас: словам ці ўчынкам, сьвядома ці несьвядома. Іх чыны і словы моцна і балюча паранілі нас, закранулі «за жывое», нібы тыя бізуны, што да крыві ранілі нашага Збаўцу. Ці не павінны й мы цярпець так, як Ён? Ці не павінны і мы моўчкі зносіць крыўды, молячыся ў душы за крыўдзіцеляў? Ці не павінны і мы дзякаваць Богу за гэтых людзей, якія могуць навучыць нас бескарысьлівай любові да бліжніх?



Памолімся, каб Госпад навучыў нас усяму гэтаму й падаваў нам дар маўчаньня кожнага разу, калі мы хочам адплаціць за крыўду «той жа манетай».

### 3. ЦЕРНЕМ УКАРАНАВАНЬНЕ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

***І. Евангельле Мк 15:16-20***

***ІІ. Тэкст Айцоў***

«Некаторыя жорсткія й лютыя [жаўнеры] са зьневажаньня Хрыста ўчынілі сабе забаву. <...>

Які ж адказ дамо мы пасьля гэтага, мы, якія палаем гневам за кожную ўчыненую нам крыўду, у той час калі Хрыстос перацярпеў такія пакуты? А тое, што рабілі з Ім, дасягала апошняй ступені зьнявагі. Бо не адну толькі частку, але ўсё цела было зьняважана: галава — каронай [цярновай], трысьцінай і ўдарамі, твар — пляваньнем, шчокі — аплявухамі, усё цела — бічаваньнем, апрананьнем у плашч і прытворным пакланеньнем, рука — трысьцінаю, якую далі яму замест жазла, вусны — воцатам, паданым для піцьця. Што можа быць цяжэй, што можа быць больш крыўдна [для Яго]? <...>

Чуючы пра гэта, давайце ўзброімся супраць усялякай сваёй запальчывасьці й гневу. Калі [потым калісьці] пабачыш, што сэрца тваё напаўняецца абурэньнем, дык ахавай свае грудзі, наносячы знак крыжа, ды ўзгадай таксама адно

з гэтых здарэньняў, і гэтым успамінам разьвееш свой гнеў, як звычайны пыл».

/СЬВ. ЯН ЗАЛАТАВУСНЫ/

**III. Малітва — Стыхіра ютрані Вялікай Пятніцы (Тон 6)**

*Сарвалі з Мяне вопратку і накінулі на Мяне пурпуровы плашч, на галаву ўсклалі вянец цярновы, і ў правую руку далі трысьціну, каб Я разьбіў іх, быццам гліняны посуд.*

**IV. Кароткае разважаньне**

Узгадваючы ўкаранаваньне цернем Госпада нашага Ісуса Хрыста, паглядзім на свае адносіны з людзьмі, якія, на нашую думку, «нічога ня вартыя», а таксама з малодшымі і падначаленымі. Што кіруе намі ў гэтым выпадку, як не пыха, якая запаўняе нашыя сэрцы, паступова выцясьняючы з іх Бога. Мы ставім саміх сябе ў цэнтр і «ўскладаем на сябе карону», узносячыся такім чынам над іншымі.



Памолімся, каб Госпад, Які быў укаранаваны вянцом з церня, заўсёды нагадваў нам пра гэты Свой вянец, а можа, нават ператвараў нашую ўласнаручнаствораную карону ў гэты вянец. Будзем прасіць Госпада, каб такім чынам паказваў нам нашае сапраўднае месца ў жыцьці ды навучыў па-божаму глядзець на іншых людзей, нават калі тыя маюць, як нам толькі здаецца, менш талентаў.

## 4. НЯСЕНЬНЕ КРЫЖА ГОСПАДАМ НАШЫМ ІСУСАМ ХРЫСТОМ

**I. Евангельле Лк 23:26-43**

**II. Тэкст Айцоў**

«Ня будзем саромецца Крыжа Хрыстовага! Калі хтосьці хаваецца, ты адкрыта чыні знак крыжа на твары, каб бесы на выгляд гэтага знаку Ўладара з дрыжэньнем далёка ўцякалі! Учыні знак крыжа, калі зьбіраешся есьці ці піць, калі сядзіш, кладзешся, устаеш, калі ідзеш і калі размаўляеш. Коратка кажучы — пры ўсіх занятках. Бо Той, Хто быў да Крыжа прыбіты [зараз] перабывае ў небе. Калі б па сваім укрыжаваньні і пахаваньні пазастаў у магіле, дык слушна маглі б мы саромецца [гэтага знаку], але ж Той, Хто тут на Галгофе быў укрыжаваны, узышоў на неба з гары Аліўнай, што ляжыць на ўсход ад нас. Адсюль [з Галгофы Хрыстос] зышоў у пекла і, павярнуўшы потым да нас, ізноў пакінуў нас, узыходзячы на неба, па слову Айца, Які ўсклікаў да Яго: «Сядзі праваруч мяне, пакуль пакладу ворагаў Тваіх да падножжа ног Тваіх» (Пс 109:1)».



/СЬВ. КІРЫЛА ЕРУСАЛІМСКІ/

**III. Малітва — Стыхіра 15-га антыфону ютрані Вялікай Пятніцы (Тон 6)**

*Сёньня вісіць на крыжы Той, Хто на водах зямлю павесіў.* (Тройчы)
*Анёлаў Уладар вянчаецца цярновай каронаю.*
*Той, Хто пакрывае хмарамі неба, апранаецца на зьдзек у пурпуру.*
*Біцьцё прыймае Той, Хто ачысьціў Адама ў Ярдане.*
*Цьвікамі прыбіваецца Жаніх Царквы.*
*Кап'ём прабіваецца Сын Дзевы.*
*Пакланяемся мукам Тваім, Хрысьце.* (Тройчы)
*Пакажы нам Тваё слаўнае ўваскрасеньне!*

**IV. Кароткае разважаньне**

Узгадваючы нясеньне Крыжа Госпадам, паглядзім на нашыя асабістыя крыжы: хваробы, цярпеньні й прыкрасьці, якія сустракаюцца ў нашым жыцьці. Як мы іх пераносім? Ці так, як наш Збаўца,— з пакорай і малітвай, з ускладаньнем даверу на Бога? Ці не пачынаем наракаць на ўсіх і ўсё, а разам з тым на самога Бога? Ці не спрабуем перакласьці свой крыж на іншых?

Памолімся, каб Госпад умацаваў усіх, хто нават у цяжкіх хваробах і выпрабаваньнях ускладае надзею на Бога і з унутранай радасьцю нясе свой крыж. Памолімся і за тых, хто ня можа так даверыцца Богу, каб Госпад іх падтрымаў і навучыў гэтаму. Памолімся асабліва і за цяжка хворых, каб апека і Ласка Божая заўсёды была з імі.

## 5. УКРЫЖАВАНЬНЕ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

**I. Евангельле Мк 15:33-39**

**II. Тэкст Айцоў**

«Сьмерць кінула Хрыста пад свае ногі, Ён жа яе патаптаў, як топчуць нагамі дарогу. З уласнай волі Ён прыняў сьмерць і паддаўся ёй, каб наперакор ёй зьнішчыць яе. Бо выйшаў наш Госпад, несучы крыж, як жадала таго сьмерць, але на крыжы ўсклікнуў голасна й вывеў памёрлых з валадарства сьмерці, насуперак яе жаданьням. <...> Як жа вялікі Ён, гэты Сын Цесьляра! Накрыў крыжам сваім гэтую бездань, што паглынала ўсё, і правёў [па ім] усіх людзей да краіны жыцьця. <...>



Слава Табе, Які крыж учыніў мостам над сьмерцю. <...>

Слава Табе, Які прыняў цела людзкое і ўчыніў з яго крыніцу жыцьця для ўсіх сьмяротных.

[Давайце ж усе разам] пойдзем і ахвяруем Яму нашую любоў, як вялікую і супольную ахвяру, скіруем сьпевы і малітвы да Таго, Хто свой Крыж склаў у ахвяры Богу, каб ім узбагаціць нас усіх».

/СЬВ. АХРЭМ СІРЫЕЦ/

**III. Малітва — Трапар ютрані Вялікай Суботы (Тон 2)**

*Калі Ты зышоў да сьмерці, Жыцьцё несьмяротнае, Ты зьнішчыў пекла зьзяньнем боскасьці Тваёй. Калі ж Ты і памёрлых з апраметнай уваскрасіў, усе сілы нябесныя ўсклікнулі: «Жыцьцядаўча, Хрысьце Божа наш, слава Табе».*

**IV. Кароткае разважаньне**

Узгадваючы ўкрыжаваньне й сьмерць нашага Госпада Ісуса Хрыста, адновім у нашых душах і сэрцах рашучасьць супрацьстаяць граху ў нашым жыцьці. Ад самога хросту мы сталі на шлях барацьбы з грахом, мы згадзіліся памерці для граху. На жаль, гэтая рашучасьць з часам зьмяншаецца, у жыцьцё паступова пранікаюць кампрамісы, апраўданьні грахоў, згода на «малыя недасканаласьці». Усё гэта вядзе да вялікіх грахоў, а праз іх да духоўнае сьмерці.

Памолімся, каб Госпад дапамагаў нам аднаўляць тую рашучасьць нашага хросту, гэтую «руплівасьць у Богу». Няхай нашае сумленьне заўсёды паказвае нам правільны шлях. Няхай нашая душа не ачарсьцьвее і заўсёды чуе яго голас, які зьяўляецца голасам Божым.

## КАРОТКАЯ ІНФАРМАЦЫЯ ПРА АЎТАРАЎ ТЭКСТАЎ:

**• Сьв. Леў Вялікі (памёр у 460 г.)**

Папа Рымскі і сьвяты Айцец Царквы. Абараняў веру ад гарэзіі монафізітаў, для чаго даслаў на IV Усяленскі Сабор у Халкідоне (што каля Канстанцінопаля) свой ліст з вызнаньнем правільнай веры. Калі прачыталі яго перад усімі мітрапалітамі і біскупамі, то яны ўсе ўсклікнулі: «Гэта сьвяты Апостал Пётр праз Льва кажа». Таксама сьв. Леў напісаў шмат вельмі прыгожых казаньняў на розныя царкоўныя сьвяты. Дадзены ўрывак са Слова 56-га (казаньне 5 на Вялікі пост).

**• Сьв. Мелітон, біскуп Сардыйскі, у Лідыі (памёр каля 194-195 гг.)**

Адзін з найстаршых сьвятых Айцоў. Пісаў вершаваныя гімны і малітвы. Ня ўсе ягоныя творы захаваліся да нашага часу. Друкаваны намі ўрывак паходзіць з нядаўна знойдзенага ягонага твору «Аб душы, целе і пакутах Гасподніх».

**• Сьв. Кірыла, біскуп Ерусалімскі (313 - каля 386)**

Родам падобна што з Ерусаліму. Напачатку быў манахам, а ў 348 г. пакліканы на біскупа Ерусаліму. З разы быў на выгнаньні за веру і абарону навукі І Усяленскага Сабору ў Нікеі (318 г.). Удзельнічаў у II Саборы ў Канстанцінопалі, на якім быў дапоўнены Сымбаль веры, які заўсёды молімся падчас Літургіі. Таксама сьв. Кірыла вядомы сваімі катэхезамі (казаньнямі-навукамі да тых, хто зьбіраецца прыняць хрост). З 14 разьдзелу 4-й Катехэзы мы і ўзялі ўрывак.

**• Сьв. Ян Залатавусны, біскуп Канстанцінопаля (каля 350 - 407 г.)**

Нарадзіўся ў Антыёхіі і стаў адным з самых адукаваных людзей свайго часу. Там жа, калі быў высьвячаны на сьвятара, адкрыўся ў яго талент да казаньняў. І ад таго моманту аж да нашага часу ён лічыцца самым вялікім царкоўным прапаведнікам, за што назвалі яго — Хрызастом (г.зн. Залатавусны). Пасьля быў пакліканы на біскупа ў Канстанцінопаль, дзе пачаў выпраўляць немаральныя паводзіны царскага двара, за што патрапляў некалькі разоў на выгнаньне. Памёр са словамі на вуснах: «Дзякуй Богу за ўсё».

**• Сьв. Ахрэм, дыякан з Сірыі (306-373)**

Вялікі багаслоў і паэт. Аскет і заснавальнік багаслоўскай школы. Адзін са сьвятых Айцоў Царквы.

Старазапаветныя тэксты, у якіх раскрываецца ідэя падзякі, паказваюць яшчэ адно яе вымярэньне, якое ў нашых разважаньнях на гэты раз мы будзем спрабаваць спалучыць наўпрост з новазапаветным пасланьнем: падзяка часта спалучаецца са складаньнем ахвяры. Значная група тэкстаў Старога Запавету зьвяртае ўвагу ўласна на гэтае вымярэньне ідэі падзякі. Для прыкладу можна разгледзець некалькі тэкстаў: «Калі хто ў падзяку прыносіць яе, дык пры ахвяры падзякі ён павінен прынесьці прэсныя хлябы, зьмяшаныя з алеем, і прэсныя ляпёшкі, памазаныя алеем, і пшанічную муку, насычаную алеем, хлябы, зьмяшаныя з алеем» *(Ляв 7, 12)*, «Прынясі Богу ў ахвяру падзяку, і выконвай твае абяцаньні Усявышняму» *(Пс 49, 14)*, «Хто ў ахвяру падзяку прыносіць, той шануе Мяне, і хто на дарогі сваё зважае, таму пакажу я Божы ратунак» *(Пс 49, 23)*, «Хай славяць Госпада за ласку Ягоную і за цудоўныя дзеі Ягоныя сынам чалавечым! Хай прыносяць Яму ахвяру хвалы, і хай абвяшчаюць пра справы Ягоныя песьняю!» *(Пс 106, 21-22)*. Стары Запавет ведае шмат відаў ахвяр. Іх апісаньне можна знайсьці ў кнізе Лявіт *(Ляв, 1-7)*. Сярод ахвяраў, якія прыносіліся, трэба вылучыць ахвяру цэласпаленьня *(пар. Ляв 1, 4)*, ахвяру за грэх і ахвяру віны *(пар. Ляв 4, 1 - 6, 7; 6, 25 - 7, 10)*. Акрамя ахвяраў крывавых у Бібліі знаходзім таксама некрывавыя ахвяры. Яны складаліся са збожжа, лівану і віна *(Ляв 2, 1-15)*. Прынашэньне ахвяраў у старажытным сьвеце было важным элементам рэлігійнага і культавага жыцьця. Ахвяры складалі ў розных намерах, таксама й як падзяку. Мэтаю ахвяраваньня было паяднаньне таго, хто яе складае, з Богам (пар. Ляв 1, 46), вяртаньне супакою і прыязных стасункаў паміж Богам і людзьмі *(пар. Ляв 3, 1-17; 7, 11-36)*.

Вячаслаў СТЭЦКО

# Дзякуйце за ўсё

*«...Дзякуйце заўсёды за ўсё Богу і Айцу, у імя Госпада нашага Ісуса Хрыста» (Эф 5, 20)*

З гэтае перспэктывы зьвернем цяпер увагу на Новы Запавет, а ў прыватнасьці на Пасланьне да Габрэяў, дзе гаворыцца пра сьмерць Ісуса Хрыста як пра дасканалую ахвяру, якая раз і назаўсёды дала чалавеку доступ, сяброўства і паяднаньне са сваім Стварцом *(Габ 9, 23)*. Старазапаветныя ахвяры мелі абмежаваны і недасканалы характар. Хрыстос жа сам стаўся Ахвяраю і Ахвярнікам — аднаразова і трывала праз Сваю крыжовую сьмерць Ён перамяніў дзеі і лёс чалавека: «Хрыстос жа ўвайшоў не ў сьвятыню, пастаўленую рукамі, якая была падабенствам сапраўднай, але ў самае неба, каб адтуль заступацца за нас у прысутнасьці Бога, ды не па тое, каб меў часта ахвяроўвацца, як першасвятар, які штогод увваходзіць у святое святых з чужою крывёю, інакш цярпеў бы там многа разоў ад заснаваньня сьвету. А вось Ён раз аб'явіўся ў гэты час перад канцом сьвету дзеля зьнішчэньня граху праз ахвяраваньне Самога Сябе. І як устаноўлена людзям раз памерці, а пасьля — суд, так і Хрыстос адзін раз быў ахвяраваны дзеля зьнішчэньня грахоў многіх, а другі раз зьявіцца без граху да тых, што Яго чакаюць, на збаўленьне» *(Габ 9, 24-28)*. У пададзеным фрагменце Пасланьня да Габрэяў мы маем дачыненьне з дзьвюма канстытуцыйнымі элементамі, якія зьвязаныя з ахвяраю Хрыста. Гэта — зьнішчэньне грахоў многіх, а таксама збаўленьне тых, хто верыць і чакае Яго. Прааналізуем, такім чынам, коратка значэньне ахвярнае сьмерці Ісуса Хрыста.

У гісторыі дзеяў Бога й чалавека грэх зьяўляецца ўжо амаль на самым пачатку існаваньня чалавека і выяўляецца як адвяртаньне ад Яго альбо незахаваньне яго законаў і прыказаньняў, а нават як абраза Стварцы. Упадак чалавечай асобы зьяўляецца перакрэсьленьнем сувязяў паміж Богам і чалавекам, адмаўленьнем таго стану, у якім людзі знаходзіліся ў момант стварэньня чалавека. Катэхізм Каталіцкай Царквы сьцьвярджае: «Стараючыся ўсьвядоміць грэх, трэба найперш прызнаць глыбокую сувязь чалавека з Богам, бо па-за гэтымі сувязямі зло граху ня робіцца яўным у сваёй сапраўднай істоце як адкіданьне Бога і процістаўленьне Яму, і далей абцяжарвае жыцьцё чалавека і гісторыю» *(ККЦ 386)*. Зрабіўшы няправільны выбар, прабацькі абралі шлях аддаленьня ад свайго Стварцы, сталі на супрацьцыўным баку, а гэта значыла страту дароў, якія былі дадзены падчас стварэньня чалавека, найперш дару трывалага сяброўства з Богам, глыбокіх сувязяў з ім, а таксама дару несьмяротнасьці. Такім чынам усе людзі былі ўцягнутыя ў грэх прабацькоў.

Апостал Павел сьцьвярджае, што «праз непаслухмянасьць аднаго чалавека сталіся грэшнікамі многія» *(Рым 5, 19)*, а таксама «праз аднаго чалавека грэх увайшоў у сьвет, і праз грэх — сьмерць, гэтак і смерць перайшла на ўсіх людзей, бо ўсе людзі саграшылі» *(Рым 5, 12)*. З гэтага часу грэх няспынна суправаджае дзеі чалавецтва. Наступствы першароднага граху ствараюць у сьвеце стан грэшнасьці *(пар. ККЦ 407)*, а аўтар Евангельля сьв. Яна сьцьвярджае нават існаваньне «граху сьвету» *(пар. Ян 1, 29)*. Грэх дзеліць супольнасьць Бога й чалавека, а прынамсі стварае цяжкасьці ў стварэньні больш глыбокіх сувязяў з Ім. Грэх перашкаджае правільнаму разьвіцьцю супольнасьці між людзьмі, а таксама грамадзкіх структураў. Больш за тое, усё жыцьцё чалавека зьяўляецца няспыннай барацьбою. Саборная Канстытуцыя *«Gaudium et spes»* так гаворыць пра драму чалавека, які ўпаў: «На працягу ўсёй чалавечай гісторыі ідзе цяжкая барацьба супраць сілаў цемры; гэтая барацьба, якая пачалася калісьці напачатку сьвету, будзе трываць да апошняга дня, паводле словаў Госпада. Уцягнены ў яе чалавек увесь час мусіць прыкладаць намаганьні, каб трываць у добрым, і без вялікай працы ды дапамогі ласкі Божай яму ня будзе дадзена асягнуць еднасьці ў самым сабе» *(GS 37)*.

Тым ня менш сітуацыя, у якой апынуўся чалавек у выніку першароднага граху, не зьяўляецца непапраўнаю, безвыходнаю. Ужо напачатку дзеяў чалавека, адразу пасьля таго, як Адам і Ева парушылі Божыя прыказаньні, Творца дае чалавечай асобе надзею. Гэтай надзеяй будзе Хрыстос Адкупіцель, Які праз сваю сьмерць на крыжы адкупіць і вызваліць чалавека ад першароднага граху. Сваёй ахвяраю Хрыстос замяняе ахвяры Старога Запавету, якія, аднак, не змаглі зьняць грахоў *(пар. Габ 10, 11)*. Аўтар Пасланьня да Габрэяў у выдатным аналізе Псальму 39 выразна сьцьвярджае: «Ахвяры і прынашэньня Ты не захацеў, але цела падрыхтаваў Мне. Цэласпаленьні і ахвяры за грэх не даспадобы Табе. Тады сказаў Я: вось, іду, як у пачатку кнігі напісана пра Мяне, выканаць, Божа, волю Тваю. [...] Адмяняе першую [ахвяру], каб устанавіць другую. На моцы той волі асьвечаны мы назаўсёды праз ахвяру цела Ісуса Хрыста» *(Габ 10, 5-10)*. Гэта менавіта Хрыстос склаў раз і назаўсёды ахвяру за нашыя грахі. Дзеля гэтага Хрыстос ёсьць сапраўдным сьвятаром. Старазапаветныя сьвятары ўвесь час паўтараюць тыя самыя ахвяры. Сапраўдны першасьвятар — Хрыстос — сеў праваруч Айца, бо Яго ахвяра зьяўляецца дасканалаю. Больш таго, Яго ахвяра дае чалавеку новае жыцьцё: «Дык маем тады, браты, пэўнасьць, што ўвойдзем у Сьвятое Месца праз кроў Ісуса, Які праклаў нам шлях новы і жывы праз заслону, гэта значыць праз цела Сваё» *(Габ 10, 19-20)*. Апостал Павел у сваю чаргу навучае: «Як праз злачынства аднаго пакараньне на ўсіх людзей, так праз справядлівасьць Аднаго [Хрыста] — апраўданьне да жыцьця на ўсіх людзей» *(Рым 5, 18)*. Збаўленчая справа Хрыста зьяўляецца, такім чынам, сьвятлом надзеі жыцьця вечнага для чалавека, ды адначасова гэта — справа, якая яднае Бога й чалавека, справа паяднаньня.

Збаўленьне і адкупленьне чалавека з аковаў граху і зла было нібы ўпісанае ўжо ў самую Божую справу стварэньня. Парушаючы ўстаноўлены Богам парадак, прабацькі ўсё ж ня здолелі зьнішчыць Божы план збаўленьня, які датычыць чалавецтва. Надзея адкупленьня, якая сталася рэчаіснасьцю разам з нараджэньнем Хрыста, ставіць чалавека перад аблічам праўды пра сябе, пра сваё існаваньне, пра тыя драматычныя падзеі, якія спаткалі чалавечую асобу напачатку яе існаваньня. Таму Хрыстос, ахвяруючы Сябе самога на крыжы, вяртае чалавеку надзею на канчатковае вызваленьне ня толькі ад першароднага граху, але таксама ад усялякага зла й няпраўды ды на паяднаньне са сваім Стварцам і Богам. Дзякуючы Хрысту, чалавек, які верыць, можа знайсьці раўнавагу

*Працяг. пачатак у №1 (40), 2 (41) - 2004.*



***Што гаворыць пра чысьцец сучасная навука Каталіцкай Царквы?***

**Алесь БУРЫН**, *г.Івацэвічы*

# Дасьпяваньне ў любові

Навука пра чысьцец, сфармуляваная канчаткова на Фларэнцкім і Трыдэнцкім Усяленскіх саборах, доўгі час была адным з асноўных пунктаў разыходжаньня паміж Каталіцкай і Праваслаўнай Царквою, хоць на самой справе рознагалосьсі датычылі толькі формы, якая выяўляла адну праўду. У Сьвятым Пісаньні амаль няма згадак пра чысьцец, і Царква гаворыць пра яго на падставе Традыцыі. Менавіта звычай малітвы за памёрлых, які сягае сваімі каранямі глыбіні стагоддзяў, яднае праваслаўных і каталікоў. Як вынік гэтай традыцыі паўстала навука пра пэўны стан (альбо месца), у якім пасьля сьмерці знаходзяцца тыя, хто пакуль ня можа сузіраць Бога.

Чысьцец можна акрэсьліць як пераходны працэс дасканаленьня чалавека пасьля сьмерці, тады, калі стан ласкі робіць магчымым яго збаўленьне, але наступствы граху (правіны і пакараньне) перашкаджаюць яго поўнаму зьяднаньню з Богам.

Паводле навукі Катэхізму Каталіцкай Царквы, у чысьцец трапляюць тыя, хто памірае ў стане ласкі і сяброўства з Богам, але ня цалкам ачышчаныя. Чысьцец зьяўляецца таямніцаю справядлівасьці і любові Божай. Вечнае знаходжаньне ў непасрэднай блізкасьці з Богам і сьвятымі патрабуе поўнага разьвіцьця асабовых і надпрыродных якасьцяў у чалавеку. Таму Бог прагне зрабіць недасьпелага чалавека здольным да боскага сузіраньня. Паводле трапнага акрэсьленьня аднаго тэолага час знаходжаньня ў чысьцы зьяўляецца "дасьпяваньнем у любові".

Сэнс чысца ня ў тым, што душа чалавека адчувае нейкі боль — яна церпіць, бо любіць Бога. Кара гэтых душаў будзе заключацца перш за ўсё ў сьвядомасьці часовага аддаленьня ад Бога. Чалавек у чысьці цалкам усьведамляе свае правіны, але ня мае, аднак, магчымасьці выправіць шкоду, якую ўчыніў у жыцьці. Пры тым, што ў чысьці людзям дадзена больш поўна пазнаць уласныя правіны, а таксама атрымаць надпрыроднае дабро, той факт, што тут чалавек пазбаўлены магчымасьці сузіраць Бога, зьяўляецца для іх яшчэ больш балесным.

Існуе таксама думка тэолагаў, што пакараньне ў чысьці будзе заключацца і ў нейкай пачуцьцёвай пакуце. Раней гэта паказвалася ў вобразе чысцовага агню. Аднак Сьвятое Пісаньне не гаворыць канкрэтна нічога пра тое, якое ачышчэньне чакае чалавека ў чысьці.

Тым, хто знаходзіцца ў чысьці, забясьпечана вечнае збаўленьне – яны знаходзяцца ў стане ласкі, таму ня могуць ужо трапіць у пекла. Пасьля заканчэньня працэсу ачышчэньня, які залежыць ад цяжкасьці іх віны, яны змогуць сузіраць Бога. Царква — гэта значыць усе мы, жывыя, а таксама сьвятыя ў небе — можа дапамагчы паскорыць гэты працэс праз малітвы і ахвяраваньне ўчынкаў міласэрнасьці за тых, хто знаходзіцца ў чысьці.

Магістар **АНДРЭЙ КРОТ**



*Ад усяго сэрца віншуем*

***Андрэя КРАТА і Кацярыну ІВАНОВУ са стварэньнем новай хрысьціянскай (спадзяемся, у хуткім часе сьвятарскай) сям'і. Хай Госпад блаславіць і ўмацоўвае вашу любоў! Верым, што ваша сям'я будзе прыкладам вернасьці й шчырай любові да Госпада ды ўзорам служэньня Царкве, Бацькаўшчыне і людзям.***



ў гэтым сьвеце; адпаведнае месца ў сваім асабістым ды сямейным жыцьці, у працы, у грамадзкім заангажаваньні.

У перспектыве гэтых нашых разважаньняў мы падыходзім да высновы: усё жыцьцё Хрыста, Яго ахвяра й сьмерць, Яго ўваскрасеньне зьўляецца для нас, хрысьціянаў, сэнсам нашае веры і ўчынкаў. У гэтай перспектыве трэба сказаць, што менавіта за гэта трэба дзякаваць Богу. Бо гэта Ён нас знаходзіць, ачышчае ад грахоў і збаўляе нас. І тут вернемся да пытаньня, пастаўленага на пачатку першай часткі нашага супольнага біблійнага падарожжа: за што вернік у сваім жыцьці мусіць дзякаваць? Менавіта за ахвяру Хрыста, за вызваленьне нас ад зла і граху, за збаўленьне, якое дадзена праз Хрыста ў зародку і ўвесь час становіцца рэчаіснасьцю ды імкнецца да эсхаталагічнай будучыні. Аўтар Евангельля ад св. Яна ў цудоўным фрагменце вучыць: «Бо так палюбіў Бог сьвет, што Сына Свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто верыць у Яго, не памёр, але меў жыцьцё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына Свайго ў сьвет, каб судзіць сьвет, але каб сьвет быў збаўлены праз Яго» *(Ян 3, 16-17)*. Такім чынам, будзем любіць і дзякаваць Богу за гэты дар прабачэньня, любові і збаўленьня, які прынёс нам Ісус Хрыстос — Уцелаўлёны Бог!

*Працяг будзе*

# Кана для беларускіх сем'яў у Баранавічах

***Чарговая сесія «Кана» для беларускіх сем'яў адбылася з 3 па 8 жніўня 2004 году ў Доме сьв. Тройцы Айцоў Вярбістаў у Баранавічах. Арганізатарам гэтых сямейных рэкалекцыяў стала брацтва «Кана», якое ўжо некалькі гадоў дзейнічае ў Беларусі, а таксама прадстаўнікі Супольнасьці «Новая дарога» («Chemin Neuf») з Польшчы.***



Гэта ўжо другая «Кана», якая адбываецца ў Беларусі. Удзельнікамі праграмы гэтым разам сталі пяць сужонскіх параў грэка- і рыма-каталікоў з Берасьця, Барысава й Менску. Падчас рэкалекцыяў яны імкнуліся адшукаць новы смак свайго сужэнства ў супольнасьці адно з адным і з Богам. Разам з імі сваю «Кану» перажывала таксама моладзь і сужэнствы, якія ўжо раней прайшлі праз гэтую праграму. Яны служылі новым удзельнікам на гэтай сесіі — даглядалі дзяцей, клапаціліся пра побытавыя справы, а таксама маліліся за ўдзельнікаў сесіі. Для іх таксама была падрыхтаваная ўласная праграма. Дзіцячая «Кана» адбывалася ў душпастырскім цэнтры грэка-католікаў у Івацэвічах. У ёй удзельнічалі дзеці тых, хто праходзіў рэкалекцыі ў Баранавічах.

# У горы і ў радасьці

Парады сямейнага псіхатэрапеўта д-ра Барбары СМАЛІНСКАЙ *

> «Удалае сужэнства – гэта саюз, у якім абедзьве асобы адчуваюць, што кахаюць, паважаюць, разумеюць, падтрымліваюць адзін аднаго. Гэта такі саюз, у якім сужонкі стараюцца заспакоіць патрэбы і прагненьні адзін аднаго. Яны спрабуюць быць для сябе дарам. Мусяць таксама адмовіцца ад узаемнай ідэалізацыі і вучыцца прымаць другога такім, які ён ёсьць»,– сьцьвярджае сямейны псіхатэрапеўт Барбара СМАЛІНСКАЯ.

**• ЯКІМ ЧЫНАМ МОЖНА ПАЗНАЦЬ СЯБЕ, ПРАВОДЗЯЧЫ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІНАЎ НА ТЫДЗЕНЬ У ВОЛЬНАЙ АД ПРАБЛЕМАЎ АТМАСФЕРЫ ІДЫЛІІ?**

Як я ўжо сказала, трэба размаўляць: пра сябе, пра свае погляды, каштоўнасьці, планы, мары. Добра задаць сабе самому некалькі важных пытаньняў: ці будзем мы кахаць адно аднаго дастаткова моцна, каб пераносіць свае недахопы; ці мы знайшлі разуменьне ў нашых асабістых поглядах на сям'ю, месца ў сужэнстве, выхаваньне дзяцей, веры і г.д.?

Важна таксама перажыць супольна такі вопыт, які дапаможа нам пабачыць адно аднаго ў розных сітуацыях, ня толькі падчас забаваў, гэта можа быць, напрыклад, наведваньне хворай цёткі, калі трэба прыбраць і схадзіць у краму, альбо супольны выезд у менш камфортныя ўмовы. Важна таксама пазнаць свае сем'і, пабачыць нарачоную, нарачонага ў сітуацыі з іншымі людзьмі, заўважыць таксама свае недахопы. Погляд на сябе толькі праз ружовыя акуляры можа выклікаць сур'ёзны крызіс адразу на пачатку сужэнства, калі раптам наступіць вялікае расчараваньне: «мне здавалася, што ты іншая, іншы...». Другая важная рэч — гэта навучыцца разам даходзіць да кампрамісаў. Асабліва цяжка гэта адзіным дзецям, якія маглі ня мець магчымасьці навучыцца гэтаму ў сям'і. Асобы, якія паходзяць са шматдзетных сем'яў, натуральным чынам навучыліся дзяліцца й ладзіць.

**• АЛЕ КАЛІ МЫ ЎЖО СЯМ'Я, І ЎСЁ Ж, НЕ ЗВАЖАЮЧЫ НА КАХАНЬНЕ, ЯКОЕ НАС АБ'ЯДНОЎВАЕ, ЗАНАДТА ЧАСТА МАЕМ ДОСЫЦЬ СЯБЕ І ГЭТАГА САЮЗУ - ШТО ТАДЫ РАБІЦЬ?**

Яшчэ раз падкрэсьліваю вялікае значэньне размовы. Сказана: «Хай сонца не заходзіць у гневе вашым» *(Эф 4, 26)*. Добра пагадзіцца перад тым, як пакласьціся спаць, яшчэ ў той самы дзень, калі мы пасварымся. Пары, якія вырашаюць праблемы пры дапамозе «ціхіх дзён» вельмі моцна рызыкуюць. Гэты метад, на жаль, эвалюцыянуе: спатаку вытрымаем гадзіну, потым паўдня, а праз некаторы час нават і некалькі дзён. Нядаўна я размаўляла з парай, якія не размаўлялі паміж сабою восем месяцаў. Такім чынам, трэба РАЗМАЎЛЯЦЬ. Потым трэба задумацца над тым, як размаўляць. Размаўляць не пра прэтэнзіі, пра тое, што «ты — пачвара, бо...» альбо «ты жахлівая, бо...». На жаль, часамі мадэльлю камунікаваньня сужонкаў зьяўляецца ўзаемнае абвінавачваньне. Падчас сапраўднага дыялогу трэба размаўляць пра свае пачуцьці, гэта значыць вучыцца казаць, напрыклад: «Калі ты не папярэджваеш мяне, што прыйдзеш на тры гадзіны пазьней з працы, то я вельмі непакоюся і хвалююся». Трэба зрабіць націск на тое, што Я адчуваю. Гэта нялёгка, бо нашмат лягчэй сказаць: «Ты — лайдак і напэўна мне хлусіш!», чым адкрыць свае пачуцьці і сказаць: «Мне непрыемна, ты вельмі мяне параніў, калі не папярэдзіў раней, што маеш нейкую важную справу». Уласна, гэта адзіны эфектыўны спосаб камунікацыі.



Наступная справа — гэта гаварыць пра свае патрэбы ў розных аспектах, таксама і ў такіх далікатных, як інтымныя. У гэтай галіне існуе вельмі шмат узаемных чаканьняў, але таксама ёсьць узаемны непакой і сарамлівасьць, як пра гэта размаўляць. І тут яшчэ раз падам прыклад, можа, не да канца інтымны, але ўзяты проста з жыцьця. Жонка была расчараваная тым, што яе муж ніколі не купляў ёй кветкі, але ніколі яму пра гэта не сказала. Адважылася гэта зрабіць толькі пасьля тэрапеўтычнай сесіі пасьля некалькіх гадоў сямейнага жыцьця. Муж вельмі зьдзівіўся. Ён выглядаў так, нібы першы раз пра гэта пачуў. Пасьля размовы, калі пачаў пра гэта глыбей задумвацца, аказалася, што яго бацька ніколі не купляў маці кветкі. Часамі ён бачыў мужчынаў, якія дарылі сваім жанчынам кветкі, але яму ніколі не прыйшло ў галаву, каб падарыць іх сваёй жонцы. У гэтай пары расла вялікая крыўда. Жонка адчувала сябе некаханаю, бо яна ў сваю чаргу вырасла ў сям'і, у якой тата часта дарыў маме кветкі. Такія рэчы здараюцца вельмі часта, і калі мы не гаворым пра свае патрэбы, то не павінны зьдзіўляцца, што другая асоба іх не задавальняе.

**• АДКУЛЬ БЯРУЦЦА ТАКІЯ РОЗНЫЯ ЧАКАНЬНІ ЖАНЧЫНЫ І МУЖЧЫНЫ?**

Розьніца бярэцца ня толькі з таго, што мы розныя — жанчына й мужчына. Мы розныя яшчэ й таму, што выхоўваліся ў розных сем'ях. Кожны выходзіць са свайго роднага дому з нейкім узорам роляў. Гэта ня так, што адна схема добрая, а другая дрэнная. Адна мадэль такая: муж працуе, а жанчына кіруе домам, і абодва шчасьлівыя. Але гэта адзін са шматлікіх укладаў. Давайце задумаемся, што можа адбывацца ў сітуацыі, калі дзяўчына паходзіць з сям'і, у якой мама працавала па-за домам і разам з бацькам падзяляла хатнія абавязкі. А хлопец паходзіць з сям'і, у якой маці займалася домам. Можна дапусьціць, што напачатку ім будзе цяжка выпрацаваць іх уласную мадэль сям'і. Каб да гэтага дайшло, абодва мусяць зразумець, што мадэль, якая пануе ў іх бацькоўскіх дамах, не зьяўляецца ўзорнай. Мусяць адчуць разнастайнасьць мадэляў. Часта гэта цяжка. Назіраючы за бацькамі, якія пры акрэсьленым падзеле роляў былі шчасьлівыя, маладыя перакананыя, што ўласна такая мадэль ім прынясе шчасьце. Падчас спробаў любым коштам перанесьці яе ў сваё жыцьцё, яны сустракаюць неразуменьне сужонка і супраціў. Аднак яны павінны памятаць, што іх жыцьцё іншае, таму што яны іншыя, чым іх бацькі. Такім чынам, важна зразумець, што іншая асоба — не такая самая, як я. Яна мае права думаць інакш. Ніколі мы ня будзем такія самыя, і ў гэтай рознасьці і адметнасьці ёсьць багацьце.

**• ЯК ЗЬМЯНЯЕЦЦА СЯМ'Я, КАЛІ НА СЬВЕТ ПРЫХОДЗІЦЬ ДЗІЦЯ? ЦІ ЗАЎСЁДЫ ГЭТЫ ФАКТ УМАЦОЎВАЕ САЮЗ?**

Гэта распаўсюджанае перакананьне, але дзіця — гэта ня "пластыр" на сужэнскія раны. Дзіця ня лечыць. Часам, калі адбываецца нешта дрэннае ў сям'і, калі яна перажывае крызіс, сужонкі падхопліваюць думку, каб займець дзіця. Ім здаецца, што яно ацаліць, умацуе іх саюз. Мне здаецца, што гэта — вялікая памылка. У гэтым ёсьць пэўны элемент прадметнага выкарыстаньня дзіцяці, бо дзіця — гэта не панацэя ад недахопаў. Асабліва важна гэта ў выпадку першага дзіцяці. Пераход ад быцьця сужонскаю параю да быцьця сям'ёй цяжкі. Нават калі людзі вельмі гэтага хочуць. Муж і жонка, якія былі для сябе каханкамі, сябрамі, раптам мусяць падзяліць свае пачуцьці і ўвагу. Калі гэта адбываецца занадта рана і не вельмі адказна, пачынае зьяўляцца ўсё больш канфліктаў. Я маю на ўвазе таксама сем'і, створаныя з-за нечаканай, так званай "незапланаванай" цяжарнасьці. Гэта вельмі абцяжарвае і заўсёды пакідае сьлед, асабліва на мужчынах. Пазьней напрацягу многіх гадоў гэта мае ўплыў на стасункі ў сужэнстве. Аптымальнае выйсьце — калі пара мае некаторы час, каб нацешыцца сужэнскім жыцьцём, перш чым стане бацькамі. Зусім іншая сітуацыя, калі сужонкі па біялагічных ці біялагічна-псіхалагічных прычынах ня могуць мець дзяцей. Гэта таксама вельмі складана. Важна, каб прайсьці праз гэтую сітуацыю разам і разам шукаць выйсьце.

* Пачатак у № 2 (41). 2004.



# Цэнтр Бацькоўства

**Умацоўваем сем'і, умацоўваючы бацькоў**

***У апошнія дні лета, калі сонца яшчэ пяшчотна грэе, але ўжо як толькі зьнікне, то становіцца па-восеньску трывожна (бо ты апрануўся недастаткова цёпла), у польскім Любліне праходзіла незвычайная канферэнцыя. Яе арганізавалі людзі, якіх турбуе стан нашых сем'яў, а канкрэтней — роля бацькі ў сучаснай сям'і. Назва гэтай міжнароднай канферэнцыі — «Радасьць і выклік Айцоўства».***

Вітаўт ПАРФЕНЕНКА *(Горадня)*

## Радасьць і выклік айцоўства

Арганізацыйна пра спатканьне дбалі Люблінская рыма-каталіцкая архідыяцэзія, якая забясьпечыла пражываньне гасьцям канферэнцыі, і фундацыя, якая носіць назву ў гонар двух сьвятых, айцоў Царквы з нашай часткі Эўропы — Кірылы й Мятода. Фундацыя забясьпечыла тэхнічны бок правядзеньня сустрэчы.

Да разгляду праблемы бацькі было прапанавана некалькі падыходаў.

Па-першае, дзіця, якое расьце ў сям'і, мусіць мець заўсёды перад сабою той вобраз стасункаў, які мае Бог-Айцец з Богам-Сынам. Таму з гэтага гледзішча стасункі ў сям'і зьяўляюцца вызначальнымі для прышласьці падрастаючай асобы. Ці гэтыя стасункі не найстарэйшыя ў гісторыі чалавецтва? Па-другое, сучасны бацька, што жыве ў віры зьменьлівага жыцьця й розных сітуацыяў, патрабуе большай мабільнасьці з абавязковым захаваньнем усіх тых характарыстык, якія робяць бацьку неабходным у сям'і. Хада гісторыі зьмяняла функцыі бацькі. Калі ў родавай грамадзе ён выступаў як зьверхнік роду, то ў часе станаўленьня супольнасьцяў яны прыдбалі функцыі павадыроў. Прыход эмансіпацыі сем'яў, утварэньне самастойнай сям'і наклаў на мужчыну абавязак апекавацца жонкай і дзецьмі. Чым не яскравы ўзор апекі чын рыцарства ў Эўропе? З надыходам эмансіпацыі кабет, мужчыну па-новаму трэба было ацаніць характар партнёрства ў варунках сям'і базавай восі «муж — жонка». Але нават у новых абставінах засталася, як і раней, нікім не занятая выхаваўчая роля бацькі.

Калі так здараецца, што бацька страціў працу, а маці працуе ці проста зарабляе больш, то гэта зусім ня значыць, што бацька мае меншую ролю ў сям'і. Хоць, з рэальнага досьведу, часам можна спаткаць сувязь між такімі здарэньнямі й зьніжэньнем статусу бацькі ў сям'і.

Кіраўнік фундацыі сьв. Кірылы й Мятода, сп. Дарыюш Цупял у сваёй прамове заўважыў, што існуе мноства арганізацыяў, інстытуцыяў, якія дапамагаюць сем'ям, але спатканьне, што адбылося,— гэта хіба адно з нямногіх, дзе мужчыны могуць падзяліцца сваім досьведам, даведацца праз гэта аб магчымых спосабах выхаду з складаных жыцьцёвых сітуацыяў. «Задача сучаснага бацькі — змагацца за сваіх дзяцей, змагацца ўсьцяж за тое, каб ім было добра,»— прамовіў сп. Дарыюш. Як тут не пагадзіцца! Дух змаганьня за сваіх дзяцей мусіць быць у бацькі — бо гэта мусіць быць у яго ад прыроды. Многія выступоўцы згадвалі пра важнасьць раскрыцьця сакрэту добрага бацькі для іншых, каб абудзіць для многіх бацькоў тую іх духоўную сілу, якая б узмацніла сям'ю ды народ у цэлым.

Сучасная вайна, якую вядуць сродкі масавай інфармацыі супраць сям'і, бацькоўства, дэмаралізуе сем'і ў прыватнасьці ды грамадзтва ў цэлым, разбураючы годнае й адказнае месца кожнага з «сямейнікаў». Цяпер для многіх сталася ня дзіўным тое, што жанчына нараджае дзіця «для сябе» і ня хоча мець мужа. Такім чынам, для немаўляці ня будзе бацькі. Ганебнае ўжываньне штучнага аппладненьня сталася ўсё больш папулярным у грамадзтве. Жудасны факт быў прыведзены на канферэнцыі пра дзьвюх лесьбіянак, якія штучна аппладніліся й прынялі такое рашэньне: калі выявіцца, што плод — сын, то яны яго заб'юць...

Недахоп бацькі ў сям'і, дома сёньня асабліва востры. Тата мусіць быць дома: ня толькі фізічна, але духоўна, эмацыйна. Ня думаю, што чытач аспрэчыць залежнасьць, якая існуе між адсутнасьцю бацькі й ростам такіх заганаў сярод дзяцей, як алкагалізм, наркаманія, раньняе палавое жыцьцё. Ёсьць краіны, напрыклад, у Афрыцы, дзе кожны дзясяты дзіцёнак ня ведае свайго біялагічнага бацькі (ня мае магчымасьці кантактаваць з ім). У нас сітуацыя з наяўнасьцю бацькі не настолькі драматычная, як і ў іншых постсавецкіх краінах. Часта фізічныя бацькі ёсьць, але ці прысутнічаюць яны для дзяцей духова? Ці часта бацька бласлаўляе сваё дзіця пры выхадзе ў школу, у паход ці ў іншую выправу? Ці цалуе тата сына ці дачку, ці туліць як бацька перад сном? Задумайцеся... Як часта нам самім казалі нашыя бацькі: «Я люблю цябе, мой сыне, ці мая дачка?» Мне здаецца, што я гэтага ня чуў цэлую вечнасьць, а мо' й ня было гэтага зусім.

Хацелася б запярэчыць тым, хто ня хоча мець бацьку для іх дзяцей: усе людзі, ад пачатку сваёй гісторыі, мелі бацьку — хіба толькі Адам ня меў яго. Але ў тым, адзіным выпадку, замест бацькі быў Бог. Ісус меў нябеснага Айца, але меў таксама зямнога бацьку — Язэпа, стаўшы блаславеньнем для Язэпа. Падобным чынам і Язэп стаў блаславенствам для Ісуса. Ісус Язэпаў, бо Язэп даў Яму сваё імя. Як у даўнія часы, гэтак і сёньня, чалавек, які мае імя па бацьку ўважаецца сацыялізаваным, паўнапраўным з пункту гледжаньня маралі. Як грамадзтва ставілася да людзей, якія ня мелі імя па бацьку? Думаецца, што такія былі выгнанцамі, байструкамі, якія ня мелі правоў жыць у супольнасьці. Імя па бацьку — гэта наданьне важнага статусу для супольнасьці. (Мц 1, 21; 2,1; 13, 55; Лк 2, 48; Мк 6, 3).

Паколькі стасункі Язэпа й Ісуса, якія апісаны ў Евангельлі, маюць незалежна ад эпохі свой універсалізм, сучасныя сыны павінны бачыць на ўзор Ісуса Хрыста ў сваіх бацьках узор для пераймання. Сьвяты Язэп быў тым узорам, таму й Ісус стаў цесьляром. Мы ня ведаем дастаткова шмат пра Язэпа, але з тых сьціплых зьвестак, што дае нам Сьвятое Пісаньне, можна зрабіць выснову, што Ісус вельмі шанаваў зямнога бацьку й прызнаваў яго бацькоўскі аўтарытэт для сябе. Як знак гэтага — пераймальне прафесіі сьвятога Язэпа.

А як сёньня? Сёньня аўтарытэт бацькі ў крызісе: і ў супольнасьці, і ў Царкве. З іншага боку, гэта дае падставы для аптымізму: людзі часьцей задаюць самі сабе пытаньне, чым зьяўляецца для іх аўтарытэт бацькі, калі яго перагледзець, то якімі якасьцямі ён мусіць валодаць. І, вядома, у першую чаргу, гэта выклік дзеля карэктыроўкі ўзрослага іміджу, вобраза бацькі, які вымагаецца ад сучасных мужчынаў.

## Абавязак і ахвяра

***Вяртаючыся да згаданай канферэнцыі «Радасьць і выклік Айцоўства», хачу згадаць незабыўны выступ госьця з Лівэрпуля (Вялікая Брытанія) Лорда Дáвіда АЛЬТАНА на тэму любові бацькі.***

На пачатку шаноўны выступоўца закрануў фундамант праблемы сучаснага бацькоўства. Ён згадаў, што калі чалавек, маючы высокую годнасьць у Богу, скарыстаўся бяз Бога правам выбару — то гэта ў выніку сталася першародным грахом. Выбар, як тэрмін з ангельскай мовы, сказаў Лорд Давід, вельмі блізкі да тэрміну гарэзіі ў грэцкай мове. Праз гульню слоў выступоўца падкрэсьліў — людзі шмат маюць правоў да выбару, але мала абавязкаў.

Параўноўваючы заходнюю цывілізацыю, Лорд Давід падкрэсьліў, што індывідуалізм, як рыса еўрапейца, прыйшоў коштам узаемнай адказнасьці ў сям'і, грамадзтве. Роля сям'і там мае вялікае значэньне. Гэтак, 60% апытаных у Вялікай Брытаніі сьцьвярджае, што сям'я мае вызначальную ролю для самарэалізацыі чалавека. У Партугаліі такая ж колькасьць апытаных казалі, што сям'я патрэбна дзеля выхаваньня дзяцей. У Беларусі, мне невядома пра падобныя апытаньні. Але ўжо гэтыя паказьнікі сьведчаць, што ў характарыстыцы сям'і закладзены такія рысы, як абавязак і ахвяра!

Працяг на с.14 ⇨



# Абавязак і ахвяра

⇨ Заканчэньне са с. 13

Асоба бацькі — важная прыступка для фармаваньня асабістай тоесамасьці дзяцей. «Мой бацька,— сказаў Лорд Давід — цяжка працаваў усё жыцьцё ў вытворчасьці Форда, ваяваў пад Монтэ-Касіна. Ад бацькі я навучыўся таму, як важна для чалавека пачуцьцё абавязку ў дачыненьні ўласнай сям'і, уласнага Краю. У працы бацькі я бачыў стараньні, памкненьні паправіць варункі жыцьця сваёй сям'і. Ад маці навучыўся гасьціннасьці, вытрываласьці, шчодрасьці, веры. На сьцяне кухні вісела старое ірландзкае выказваньне: «Ахоўваючы адно аднаго ў жыцьці кожнага з нас, мы жывем». У 6-ым разьдзеле Евангельля сьвятога Яна памятаем эпізод пра памнажэньне хлеба. Заканчваецца ён тым, што Ісус, перабраўшыся праз возера, спаткаў праз нейкі час тых, хто Яго слухаў на тым беразе. Калі ж яны Яго запыталі: «Раввi! Калі Ты сюды прыйшоў? Ісус сказаў ім у адказ: праўду, праўду кажу вам: вы шукаеце Мяне не таму, што бачылі цуды, а таму, што елі хлеб і насыціліся; дбайце не пра ежу прахлую, а пра ежу, што застаецца на жыцьцё вечнае, якую дасьць вам Сын Чалавечы; бо на Яго паклаў пячатку Сваю Айцец, Бог» (Ян 6, 25-27). Тут бачна, што Ісус ведае свайго Айца, які яго ўмацаваў, таму Ісус праяўляе мілату Айца да сваіх пасьлядоўнікаў. Гэты прыклад з Сьвятога Пісаньня вельмі добра паказвае нам тую моцную сувязь, якую можа мець бацька й сын. Адсюль мы, вернікі, ведаем, як важныя ўзаемныя стасункі бацькі й сына. Задумаймася, колькі дзяцей хацела б сёньня мець падобныя ўзаемастасункі са сваімі бацькамі. Бо колькі маем яшчэ адваротнага: фізічную й маральную крыўду, што нясуць бацькі сваім дзецям.

«Калі дэмакратыя — гэта найменшае зло дзеля існаваньня грамадзтва, то сям'я,— казаў Лорд Давід, — гэта найлепшы спосаб для стварэньня грамадзкай гармоніі. Што да мужчынаў, то кожны павінен ахвяраваць пэўную колькасьць часу на тое, каб выхоўваць дзяцей». Вядома, абавязак бацькі — дбаць пра дабрабыт яго малых дзяцей, але ня коштам часу, які можна было б правесьці з дзецьмі. Так паказвае й мой, бацькоўскі вопыт: аніякія грошы не заменяць гэтага часу. Дзеці патрабуюць усьцяж любячай маці ды адданага бацькі. Існуе прыпавесьць пра марнатраўнага сына. Можа, цяпер трэба часам перайначваць гэтую прыпавесьць на тое, што бацька мусіць вярнуцца да свайго сына ці дачкі. Таму для мужчыны павінна быць аксіёмай тое, што калі ўжо сталі айцамі, то засталіся айцамі да канца жыцьця. Здараецца, што мужчыны разводзяцца з сваімі жонкамі (праз грамадзянскі суд), але разьвесьціся з сваімі дзецьмі немагчыма! Ды й няма нікога па-за сям'ёй, хто б мог разьвіць вартасьці маральнага парадку, няма іншага мужчыны, які б заахвочваў, пацяшаў, любіў дзяцей па-бацькоўску.

Не павінна быць выбару паміж дзецьмі й посьпехамі ў працы. У часе наведваньня Англіі маці Тэрэза сказала: «Не для таго мы пакліканы, каб быць пасьпяховымі, але для таго, каб быць вернымі». Лорд Давід Альтан заўважыў у сваёй прамове: «Калі людзі не захоўваюць вернасьці, то Бог гэтую вернасьць захоўвае. Для чалавека — гэта трагедыя. Але без адказных бацькоў ня будзе адказных дзяцей. Сёньня 800 тыс. дзяцей у Вялікай Брытаніі ня маюць адзінага даху над галавой з сваімі бацькамі. Кажучы пра тую дэманічную атаку, якую робіць сёньняшні сьвет на трываласьць сям'і, нельга яе ні з чым параўнаць, што б мела месца калісьці». Лорд Давід Альтан прывёў шэраг эмацыйных, эканамічных і асабістых вынікаў сямейных праблемаў. Статыстыка сьведчыць, што колькасьць самагубстваў (суіцыдаў) расьце між тымі людзьмі, што ў разводзе, а колькасьць сардэчных захворваньняў у сем'ях менш, чым у самотных, і г.д.

У часе канферэнцыі зьявілася цікавая думка адносна экранізацыі аповесьці «Уладар пярсьцёнка». Вельмі паказальнай, асабліва для многіх мужчынаў, зьяўляецца гэтая аповесьць Толкіена. Гэты твор пра тое, што любоўю можна перамагчы нянавісьць. Ісус называе гэта найвялікшай любоўю — праз яе можна можна аддаць сваё жыцьцё за сваіх сяброў (і ворагаў). Толкіен крытыкуе тых, хто падобна хобітам, спадзяецца, што змагацца са злом ня трэба, яно можа і абмінуць. Гэты твор ня толькі пра любоў, але й пра мужчынскую салідарнасьць. У жыцьці вельмі часта мужчыны налягаюць на асабістыя ўменьні й сілы, але вельмі мала часу давяраюць сіле малітвы. У нашых сем'ях мы павінны даваць прыклад стасунку Сьвятой Тройцы. У Ісусе мы павінны бачыць сапраўдны стасунак Сына да Айца. Гэта ня проста, але быць бацькам — не недасяжнасьць. Мы ведаем, што наш нябесны Айцец нясхільны да гневу, таму й нам трэба так рабіць, каб любоў Бога-Айца да свайго Сына мела адбітак у нашай любові да нашых дзяцей.

Натуральна, жыцьцё выстаўляе шмат праблемаў для сям'і. Гэты, часам крытычны выклік, вытрымліваюць далёка ня ўсе. Таму сучасныя ўрады павінны працаваць над тым, каб існавала эканамічная свабода сям'і, каб у крызісныя перыяды захаваць у сем'ях сталы прыбытак.

Мы мусім у іх верыць, толькі гэтая вера іх панясе наперад.

Яшчэ адзін важны асьпект быў закрануты на канферэнцыі. Гэта праблема стратэгіі выхаваньня дзяцей. Думаю, што для нашых чытачоў будзе цікавым, як яе разумеюць нашыя суседзі. З польскага боку гэта сфармуляваў Станіслаў Славінскі.

Мы жывем у сьвеце, які сёньня дызарыентуе моладзь. Сёньня няма пачуцьця кірунку. Хоць за часы камуністаў размовы пра нацыянальнае выхаваньне нават не ўздымалася, цяпер існуе пільная патрэба (для Беларусі, мяркую, у далёкай персьпектыве) усьведамленьня ў пачуцьцях пэўнага кірунку ў палітыцы, культуры й інш. Сп. Славінскі заўважыў, што старыя службы адчуваюць бязраднасьць у справе сучасных пераменаў жыцьця. Хаос сістэмы вартасьцяў пачынае нішчыць цэлую супольнасьць. Бо існуе пэўны маральны рэлятывізм, які становіцца стандартам, у індывідуальных стасунках мараль цяпер ужо неабавязковая. Таму стратэгія выхаваньня патрэбна для ўсёй супольнасьці. Сярод аргументаў на карысьць гэтага тое, што:

- *выхаваньне павінна дапамагаць фармаваньню нацыянальнай тоесамасьці, праз стаўленьне да Бога;*
- *выхаваньне мусіць абапірацца на разуменьні таго, каго называць вернікамі, а каго не;*
- *выхаваньне мусіць разьвіваць пачуцьцё вольнасьці й нацыянальнай роўнасьці (таксама й унутранай свабоды);*
- *выхаваньне можа разьвіць велікадушнасьць (здольнасьць да прабачэньня), гатоўнасьць да самаахвярнасьці дзеля вартасьцяў.*

Новае выхаваньне не належыць усталёўваць праз забарону, толькі праз тлумачэньне, пераканаваньне. Але антыаўтарытарныя падмуркі выхаваньня на практыцы малавыніковыя. «У сучасным сьвеце,— падкрэсьліў сп. Славінскі,— яно нясе крах. Таму патрэбна рэвізія». Выхаваньне — гэта сінтэз прымусу й дыялогу: мусіць быць раўнавага. Бацька мусіць кіраваць працэсамі ў сям'і. А што да паслухмянасьці, то яна, як рэалізацыя свабоды пад кіраўніцтвам аўтарытэтнага чалавека, разьвівае яшчэ й адказнасьць асобы. Гэта ўрэшцэ рэшт стварае лад у сям'і, школе, фабрыцы, краіне.

Тым, каго цікавіць праблема, закранутая на канферэнцыі, раю зайсьці на сайт **www.tato.net**

**Вітаўт ПАРФЕНЕНКА**

*г.Горадня*

# Кардынал Каспар: «Мы знаходзімся на пачатку новага плённага перыяду царкоўных зносінаў»

**З нагоды візіту 29 чэрвеня 2004 году ў Рым Усяленскага Патрыярха Канстанцінопаля Барталамея І карэспандэнт Радыё Ватыкану папрасіў пракаментаваць гэтую падзею Старшыню Папскай Рады па справах еднасьці хрысьціянаў кардынала Вальтара Каспэра:**

— Гэтым візітам мы адзначаем 40-ю гадавіну сустрэчы Папы Паўла VI з Усяленскім Патрыярхам Атэнагорам, якая стала першай за стагоддзі сустрэчай паміж Пераемнікам Апостала Пятра і Патрыярхам Канстанцінопальскім. Праз сорак гадоў мы хочам ізноў перажыць гэтыя гістарычныя імгненьні сустрэчы і тым самым падкрэсьліць імкненьне абедзьвюх Цэркваў да працягу курсу на збліжэньне, умацаваньне сяброўскіх сувязяў на шляху да поўнага сумоўя.

***— Якое значэньне мае візіт Патрыярха на сучасным этапе гістарычнага разьвіцьця?***

— Гэты візіт Канстанцінопальскага Патрыярха мае асаблівае значэньне. Сёньня нашыя Цэрквы аднавілі двухбаковы дыялог і глядзяць з надзеяй у будучыню, маючы намер ізноў прыступіць да разьвіцьця кантактаў на міжнародным узроўні. Гэта вялікі посьпех, калі ўлічыць, што два-тры гады таму нашыя дачыненьні сутыкнуліся з цяжкасьцямі й неразуменьнем. На сучасным асаблівым этапе ў гісторыі Эўропы, які характарызуецца працэсам аб'яднаньня краін Старога Сьвету, мы маем патрабу ў супольным сьведчаньні Цэркваў.

***— Як Вы ацэньваеце ўзровень дачыненьняў між каталікамі і праваслаўнымі на дадзеным этапе?***

— Праваслаўныя Цэрквы не аднастайныя паміж сабой, а Ўсяленскі Канстанцінопальскі Патрыярхат валодае пэўным пачэсным прыматам лідарства, уключаючы пытаньні інтэграцыі Цэркваў. Таму для нас разьвіцьцё сувязяў з Патрыярхатам мае вялікае значэньне. Варта таксама адзначыць нашыя двухбаковыя дачыненьні з многімі Праваслаўнымі Цэрквамі: як мне здаецца, мы знаходзімся на пачатку новага плённага перыяду царкоўных зносінаў.

***— Што, па-вашаму, магло б спрыяць паскарэньню працэсу да здабыцьця еднасьці?***

— Ёсьць два шляхі: перш за ўсё — аднаўленьне багаслоўскага дыялогу на міжнародным узроўні, які забуксаваў у 2001 годзе; далей мы павінны разгледзець шляхі ўдасканальваньня ўзаемнага абмену інфармацыяй і падумаць пра заснаваньне інфармацыйна-кансультацыйных органаў у абедзьвюх Цэрквах. У першым тысячагоддзі існавала пасада апакрысарыя або папскага нунцыя ў Канстанцінопалі і яго канстанцінопальскага «калегі» ў Рыме. Мы не прапануем ізноў увесьці інстытут апакрысарыя, але варта падумаць пра тое, якім чынам палепшыць падтрыманьне штодзённых кантактаў дзеля таго, каб пазьбегнуць непаразуменьняў.

***— Якім Вам бачыцца будучыня саюзу паміж каталікамі і праваслаўнымі?***

— Сам Папа сказаў неяк, што гэта будзе саюз без зьліцьця і паглынаньня адной Царквы іншаю. Гэта будзе еднасьць у адной веры, з аднолькавымі Сьвятымі Тайнамі, тым самым епіскапатам і апостальскай спадчынай, але з разнастайнасьцю богаслужбовых, багаслоўскіх, духоўных і кананічных формаў. Іншымі словамі, Праваслаўныя Цэрквы захаваюць уласцівы ім вобраз паўсядзённага жыцьця. Праблема палягае хутчэй у выкананьні першынства Біскупа Рыму. Летась у Рыме адбыўся сімпозіюм па гэтым пытаньні. Трэба працягваць і далей вывучаць гэтую праблему.

*Паводле Радыё Ватыкану*

## ПАПА ЗАКЛІКАЎ МАНАХАЎ РАЗЬВІВАЦЬ ЭКУМЕНІЧНЫЯ СУВЯЗІ З УСХОДНЯЙ ЕЎРОПАЙ

***Папа Ян Павел II заклікаў прадстаўнікоў каталіцкіх манаскіх ордэнаў да разьвіцьця міжканфесійных стасункаў з манахамі Ўсходняй Еўропы. Гэта надзвычай важна ў сучасны гістарычны момант для захаваньня ў Еўропе яе хрысьціянскіх каранёў.***

«Я ведаю пра вашыя кантакты з манахамі і манахінямі іншых рэлігіяў. Ідзе гаворка пра ўзаемаадносіны, якія вельмі шмат значаць і якія могуць прынесьці плён. І я заклікаю вас паглыбляць экуменічныя сувязі з братамі й сёстрамі з Усходняй Еўропы»,— сказаў Папа, зьвяртаючыся 23 верасьня 2004 году да ўдзельнікаў міжнароднай канферэнцыі абатаў і зьверхнікаў бенядзіктынскіх манастыроў і сяброў «Міжнароднай супольнасьці бенядзіктынцаў», якіх ён прыняў у сваёй летняй рэзідэнцыі Кастэль Гандольфа пад Рымам.

Манаства, паводле словаў Папы, «уяўляе сабой натуральную аснову для ўзаемаразуменьня».

## Новы дакумент пра лёс Экзарха Антона Неманцэвіча

⇨ Заканчэньне са с.3

Раней існавалі розныя дадзеныя адносна месца й даты сьмерці айца Антона Неманцэвіча. Па адной з версіяў Айцец Экзарх памёр у канцы 1942-га — пачатку 1943 году ў менскім шпіталі для вязьняў. Гэтыя зьвесткі падаваў ваенны капелан літоўскага паліцэйскага батальёну, расквартараванага ў Менску, кс. Зянон Ігнатавічус.

Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі ў свой час зьвяртаўся як прыватна, так і афіцыйна ў розныя ўстановы і ўрэшце атрымаў адказ з Галоўнага дэпартаменту паліцыі бясьпекі (*Reichssicherheitshauptamt*), што а. Антон Неманцэвіч памёр пасьля захворваньня на плямісты тыф у пачатку 1943 году, а рыма-каталіцкі біскуп Генрык Вінкэн, пасярэднік паміж нямецкім епіскапатам і ўрадам, атрымаў з той самай установы адказ, што а. Антон памёр ад тыфу ў канцы 1942 году.

У кнізе дасьледчыка *H.Stehle «Tajna dyplomacja Watykanu»* гаворыцца пра хуткі расстрэл а. Неманцэвіча пасьля арышту.

Паводле іншай версіі, якая замацавалася ў апошні час, Экзарх быў вывезены ў Бэрлін, дзе памёр у вязьніцы. Польскі біскуп А. Казлавецкі ў кнізе *"Ucisk i strapienie. Pamiętnik więźnia 1939-1945"* падае дату сьмерці 2.12.1942. На думку а. Льва Гарошкі, якую ён выказвае ў сваіх успамінах на старонках эміграцыйнага часопісу «Божым шляхам», версія вывазу ў Бэрлін падмацоўвалася яшчэ й тым, што для айца Неманцэвіча ўзялі толькі адну перадачу. У даведніку Ю.Гарбінскага «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя» таксама сьцьвярджаецца, што а. А.Неманцэвіч памёр у берлінскай турме і падаецца яшчэ адна дата сьмерці — 1.04.1943. Гэтую ж дату й месца сьмерці падаў гісторык Янка Трацяк у энцыклапедычным артыкуле пра Экзарха А.Неманцэвіча (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т. 5).

У адшуканым дакуменце падаецца, што Экзарх Неманцэвіч быў пахаваны 9 студзеня 1943 году на нямецкіх могілках у Менску. Вядома, што нямецкія могілкі ў Менску былі зьнесеныя ў канцы 1970-ых - пачатку 1980-ых гадоў. Хутчэй за ўсё маюцца на ўвазе «новыя» могілкі, бо на старых, напэўна, у той час не хавалі.

Адносна новага дакументу мае высновы такія: знойдзены дакумент трэба лічыць аўтэнтычным, паколькі дакумент не зьяўляўся публічным, а быў унутранай дакументацыяй, і тым больш, што ў ім пададзена яшчэ й дата пачатку хваробы.

У знойдзеным дакуменце сьцьвярджаецца, што прычынай сьмерці Экзарха Антона Неманцэвіча стала сардэчна-сасудзістая недастатковасьць *(Herz- und Kreislaufschwächeim)*, якая наступіла пасьля перанесенага тыфу. Гэта можа азначаць поўнае вычарпаньне арганізму ў варунках турэмнага рэжыму. Паліцыя бясьпекі (контрвыведка) лічыла айца Антона Неманцэвіча вязьнем асаблівай вагі і менавіта дзеля гэтага сродкам ізаляцыі для яго быў абраны цяжкі турэмны рэжым. Вядома, што а. А.Неманцэвіч быў арыштаваны ў хуткім часе пасьля таго, як публічна абвясьціў пра выхад Экзархату з падпольля, з прычыны актыўнага спаўненьня сваёй пастырскай паслугі ў Царкве, а менавіта як «Экзарх Грэка-Уніяцкай Царквы». Пра негатыўнае стаўленьне акупацыйных уладаў да Грэка-Каталіцкага Экзархату ў Беларусі сьведчыць намесьнік Экзарха а. Леў Гарошка: «Падчас спробы прадаўжаць дзейнасьць Экзархату намесьнік Экзарха атрымаў загад з недвузначнымі пагрозамі перанесьціся ў «іншае месца».

***Зважаючы на гэтыя абставіны, можна лічыць Экзарха Антона пакутнікам, які аддаў жыцьцё дзеля Хрыста і Ягонага Евангельля ды прыняў мучаніцкую сьмерць «ex aerumnis carceris», што азначае «вычарпаньне арганізму ў варунках турмы.***

# Ян Павел II даў асабістую [illegible]ру Барад[illegible]



• Ватыкан. 28.06.2004. Падчас аўдыенцыі для прадстаўнікоў БГКЦ Рыгор Барадулін вітае Папу і дорыць яму ўласны пераклад «Рымскага трыпціха» на беларускую мову.

**_28 чэрвеня, напярэдадні сьвята апосталаў Пятра і Паўла, Сьвяты Айцец Ян Павел II прыняў на асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Рыгор Барадулін прыбыў у Рым у межах сьпецыяльнай пілігрымкі, каб уручыць Папу свой пераклад "Рымскага трыпціху"._**

Пераклад гэтага вялікага паэтычнага твору Яна Паўла II Рыгор Барадулін падрыхтаваў да 25-годдзя пантыфікату Папы, якое адзначалася летась увосень, але з-за сваёй хваробы змог прыехаць у Рым толькі цяпер. Барадулінскі беларускі пераклад "Рымскага трыпціху" выдадзены невялікім накладам пры дапамозе Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Рыгор Барадулін, як вядома, зьяўляецца вернікам Менскай грэка-каталіцкай парафіі сьвятога Язэпа.

Пра магчымасьць для Рыгора Барадуліна трапіць на аўдыенцыю ў Сьвятога Айца паклапаціўся Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, які і прадставіў паэта Рымскаму Архірэю Яну Паўлу II. На аўдыенцыі разам з імі прысутнічалі таксама вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Яўген Андросік з Менску і Багдан Сунак з Віцебску.

Падчас аўдыенцыі Рыгор Барадулін прасіў у Папы Апостальскага Блаславеньня для ўсіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія працуюць для разьвіцьця беларускай хрысьціянскай культуры. Сьвяты Айцец перадаў на рукі Рыгора Барадуліна сваё Блаславеньне.

Падчас пілігрымкі ў Рым Рыгор Барадулін разам з іншымі прадстаўнікамі БГКЦ наведаў галоўныя базылікі, катакомбы, у якіх маліліся першыя хрысьціяне, а таксама Беларускую Рэдакцыю Радыё Ватыкан.

Рыгор Барадулін падзяліўся сваімі ўражаньнямі пасьля аўдыенцыі ў Папы:

*С.АБЛАМЕЙКА:* ***«Якое ў вас уражаньне ад самога Папы і аўдыенцыі?»***

*Р.БАРАДУЛІН:* «Уражаньне і самае чыстае, і самае ўрачыстае, і трывожнае, таму што я не чакаў такога — што буду бачыць і чуць Папу так блізка. Гэта мара ўсяго майго жыцьця. Мне дужа спадабалася, што Папа такі ўважлівы, што ён настолькі глыбокі чалавек, сьвяты — гэта мяне асьвяціла ўсяго, усю маю натуру».

*С.АБЛАМЕЙКА:* ***«Калі Вы пачалі працаваць і што Вас натхніла на пераклад такой вялікай рэчы?»***

*Р.БАРАДУЛІН:* «Год назад я пачаў працаваць над гэтым перакладам, таму што «Рымскі трыпціх» — гэта ня проста паэзія. Таму што ў нас разуменьне паэзіі як нечага рыфмаванаганерыфмаванага, рытмізаванага-нерытмізаванага, а тут сама існасьць прамаўляе. Таму што ў «Рымскім трыпціху» — размова з вечнасьцю, гэта дападаньне да Вечнай Кнігі і размова са Словам, з якога ўсё сталася. Гэта не паэзія ў звычайным, традыцыйным значэньні слова, гэта — водгалас вечнасьці, гэта водгалас сьвятой душы».

*С.АБЛАМЕЙКА:* ***«Якое ў Вас уражаньне ад самога Рыму і Ватыкану?»***

*Р.БАРАДУЛІН:* «Ад самога Рыму... Напрыклад, Сан П'етра — Сабор Сьвятога Пятра, як я паглядзеў, ня зроблены дойлідамі, гэта ня вымуравана — гэта выдыхнута. Гэтыя храмы ўзьведзеныя з дазволу Пана Бога. Па Рыме ходзіш — як у маленства чалавецтва вяртаешся. Самыя сьветлыя ўражаньні ў мяне. Думаю, калі мне дасьць Бог, ўражаньні».

**Сяргей АБЛАМЕЙКА** (Прага)



• Ватыкан. 28.06.2004. Прадстаўнікі БГКЦ на прыватнай аўдыенцыі ў Папы Рымскага.

***<u>Ад Рэдакцыі газеты "ЦАРКВА":</u>***

*Мінуў кароткі час і Рыгор Барадулін споўніў свой намер. У палове верасьня 2004 году ён скончыў пісаць "Рымскі дыпціх" — паэтычны запіс яго рэфлексіі пасьля пілігрымкі ў Рым. Вышэй падаем малы фрагмент гэтага новага твору Народнага паэта Рыгора Барадуліна.*

## РЫМСКІ ДЫПЦІХ

### Узрушэньне

*Яну Паўлу II*

I

xxx

**Укленчыць і прыпасьці да рукі,**
**Якая сьвет мудрэць дабраслаўляе.**
**Адчуць, як ціхаміраццa вякі,**
**Як у душы зьняможанай сьвітае.**

**Прыняць ружанец з дарчае рукі —**
**Замроеныя пацеркі Сусьвету.**
**Пачуць сустрэчы голас трапяткі**
**Ўваскрэслы сьветла**
**У словах Запавету.**

**Сьцяжынай з-пад уакрыленай рукі**
**Ісьці, ані зважаючы на стому,**
**Да маладой нябеснае ракі,**
**Якая смутак і ўзьнясе на строму.**

**Бо багавейна нагадалі ксты,**
**Што недасяжна блізкі Дух Сьвяты.**

Рыгор БАРАДУЛІН

**Падпісны індэкс газеты «Царква» для індывідуальных падпісчыкаў 63205**
Кошт падпіскі на квартал — 490 руб., на паўгоддзе — 980 руб.

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 3 (42), 2004

**Адрас рэдакцыі:**
вул. Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** Алесь Трафіменка, STM
**Адказны рэдактар:** Андрэй Крот, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 28 верасьня 2004 году, а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0148724), ад 30 красавіка 2004 г.
вул. Мініна, 23-213, 220014 г.Менск. **Замова № 95**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд. аркушы. **Наклад** 1800 асобнікаў.

*Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ "Абсалютбанк", МФО 150501242*

*Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем усім за ахвяраваньні на газету "Царква".*

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 3(15)-2004




# ...Ёсьць такое месца на Зямлі – ГРОТАФЭРАТА

Ведаў я дакладна, што ёсьць яно, бо на маіх любімых богаслужбовых кнігах, царкоўна-славянскай мовай пісаных, на тытульнай старонцы было адзначана *"Римъ. Въ тіпографіи кріптоферратскія обители"*. Гэтыя словы, надрукаваныя вязьзю на пажоўклай ад часу старонцы, ды й самыя кнігі, кранутыя часам, дыхаюць нейкай таямніцай.

...Якой?

...Ёсьць такое месца на Зямлі – Гротафэрата.

Што ж гэта за месца, дзе зрабілі кніжныя шэдэўры – *"Часословъ"* і *"Іерейскій молітослов"* ды на грэцкай мове *"Анталагіён"*. Гэтымі богаслужбовымі кнігамі карыстаюцца, не зважаючы на іх каталіцкіх укладальнікаў і выдаўцоў, таксама праваслаўныя ў Грэцыі ды ў славянскіх краінах.

Гротафэрата... Цікавая назва. Добра гучыць. Нібы хваля марская аб бераг... Гротафэрата... Эх!

Далёкі й невядомы Крыптафэрацкі манастыр (так традыцыйна называюць яго па-славянску) у Італіі, што за дваццаць кіламетраў ад Рыму, нечакана зрабіўся для мяне вельмі блізкім і "сваім", калі гэтым летам давялося мне паехаць у Італію. Маестатычныя каменныя муры прынялі мяне вельмі цёпла, па-сяброўску, і хоць быў я там усяго толькі некалькі дзён, але пасьпеў адчуць атмасферу цішыні, малітвы і яшчэ... таямніцы. Хіба той самай, якой дыхалі пажоўклыя старонкі. Таямніца гэта — вялікая, але ведае пра яе кожны чалавек, які моліцца ды сузірае.



Моляцца крыптафэрацкія манахі найперш па-грэцку, але таксама і па-італійску. Шырока вядомы ў царкоўных колах манастыр прыцягвае да сябе тых, хто адкрыў для сябе ўсходнюю традыцыю Царквы. Сюды прыязджаюць з розных куткоў сьвету. Гэтыя людзі ведаюць...

...Ёсьць такое месца на Зямлі – Гротафэрата.

Было б несправядліва трымаць інфармацыю пра гэты цікавы манаскі асяродак толькі для сябе. Чарговы нумар нашага семінарысцкага дадатку да газеты "Царква" – сьціплая спроба пазнаёміць вас з гэтым цудоўным утульным куточкам усходняга манаскага жыцьця ў лацінскай Італіі. І таму запрашаю зрабіць падарожжа ў Крыптафэрацкі манастыр РАЗАМ.

*Адказны за выпуск* **Андрэй БУЙНІЧ**

## *Гротафэрацкі манастыр:* 1000 гадоў у сьвятой еднасьці

25-26 верасьня 2004 году адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне Тысячагадовага Юбілею Гротафэрацкага італійска-візантыйскага каталіцкага манастыра, які ніколі на працягу сваёй гісторыі не парываў еднасьці з Рымам.

На гэтай вялікай урачыстасьці прысутнічаў Яго Блаславенства Патрыярх Ігнат Майсей Дауд, Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.

Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў сьвяткаваньні ў Гротафэрацкім манастыры бралі ўдзел Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) і семінарысты — Васіль Ягораў, Алесь Шыбека і Алесь Аўдзяюк.

# Пра кнігі,

## выдадзеныя ў Крыптафэрацкім манастыры

Хочацца сказаць колькі словаў пра асобныя кнігі, выдадзеныя ў манастыры, што датычаць духоўна-літургічнай традыцыі і зьяўляюцца вельмі важнымі таксама і для нашай Беларускай Грэка-каталіцкай Царквы. Адна з гэтых кніг мае назву "Анталагіён", выдадзена яна ў грэцкай мове. "Анталагіён" — гэта чатыры тамы, у якія ўключаны ўсе богаслужбовыя тэксты грэка-візантыйскай традыцыі. "Анталагіён" – гэта без сумніву першая (ва ўсходняй Царкве) і ўнікальная (хоць не адзіная) спроба "пад адной вокладкай" сабраць усё тое, што патрэбна для богаслужэньня. Той, хто цікавіцца ўсходняй літургікай, ведае, што ў візантыйскай літургічнай традыцыі мы маем шмат розных богаслужбовых кніг: Актоіх, Мінэі, Трыёдзі... Чатыры тамы "Анталагіёну" цяпер перакладзены на італійскую мову. Таму выданьне падобнай анталогіі па-беларуску зьяўляецца заклікам для нашых узмоцненых малітваў.

Таксама ў Гротафэрацкім манастыры былі выдадзены дзьве вельмі падобныя адна на адну кніжкі пацаркоўнаславянску. Адна з іх называецца "Часословъ", другая — "Іерейскій молітословъ". Зьмест іх аднолькавы, розьніца – у тлумачэньні на царкоўна-славянскую мову. У "Часослове" быў выкарастаны яе "галійскі" варыянт, у "Іерейскім молітослове" – сінадальны. Зьмест кніг наступны: пасьлядоўнасьці палуночніцы, ранішніх малітваў, ютрані (штодзённай і сьвяточнай), гадзінаў, вячэрні (малой і вялікай), павячэр'я (малога і вялікага), потым зьмешчаны "канонік"; трапары, кандакі, багародзічныя на розныя выпадкі з поснай і кветнай трыёдзі выбраныя, і месяцаслоў. Хоць у БГКЦ моляцца пераважна па-беларуску, ня можам неацаніць значэньня гэтых кніг, бо яны без сумніву зьяўляюцца часткай фундаманту і ўзорам для нашай беларускай літургічнай традыцыі.

**Андрэй БУЙНІЧ**

# МАНАСТЫР італійска-візантыйскай традыцыі



Манастыр італійска-візантыйскай традыцыі імя Найсьвятой Дзевы Марыі Гротафэрацкай знаходзіцца за дваццаць кіламетраў ад Рыму і быў заснаваны ў 1004 годзе сьв. Нілам Расанскім *(S. Nilo di Rossano)* за пяцьдзесят гадоў перад падзелам Царквы на Царкву Каталіцкую і Праваслаўную. Гэты манастыр італійска-візантыйскага абраду вось ужо амаль тысячу гадоў сьведчыць сваёй штодзённай малітвай пра адзінства Царквы ў сваёй разнастайнасьці духоўных традыцыяў і культураў. Ён зьяўляецца месцам сустрэчы і дыялогу паміж заходнім лацінствам і ўсходнім праваслаўем, ён адчынены для тых, хто хоча жыць духоўнай традыцыяй Усходу.

## Заснаваньне і гісторыя

У 1004 годзе супольнасьць манахаў, якія паходзілі з Кампаніі *(Campania)*, знайшлі прытулак у манастыры сьв. Агаты, што разьмешчаны на Тускалянскіх узгорках *(sui colli Tuscolani)*. Былі гэта вучні вялебнага абата Ніла. Сам Ніл нарадзіўся на поўдні Італіі ў Калабрыі *(Calabria)*, якая ў той час была пад праўленьнем і культурна-рэлігійным уплывам Візантыі. Ён быў грэкам паводле паходжаньня і абраду. Заснаваў некалькіх манастыроў у Калабрыі і Кампаніі. Пакінуў Калабрыю з прычыны інвазіі сарацынаў і жыў доўгі час у Кампаніі ў манастырах Валелючэ *(Valleluce)* і Сэрпэры *(Sérperi)*. Вядомы сваёй сьвятасьцю пакорны манах чуваў начамі ў малітве і ўрэшце вырашыў знайсьці месца, "куды сабраць усіх сваіх братоў і сыноў, што прапалі". І "праз боскае адкрыцьцё" – згодна з апавяданьнем яго вучня Баўтрамея – атрымаў указаньне, дзе трэба будаваць манастыр, – месца яго апошняга адпачынку.



## Месца

На такійскіх узгорках былі руіны вялікай рымскай вілы, мажліва, нават пакінутай Цыцэронам. Некалькі малых будынкаў з усіх бакоў былі зарослыя пустазельлем. Гэта была грабніца рэспубліканскай эпохі, якую выкарыстоўвалі ў пятым стагоддзі хрысьціяне як месца малітвы. З-за вокнаў з падвойнымі жалезнымі кратамі называлі яе "Крыпта фэррата" (што дало сучасную назву Гротафэрата – *Grottaferrata*).

Згодна з традыцыяй тут сьв. Ніл і Баўтрамей мелі аб'яўленьне Багародзіцы, якая прасіла пасьвяціць будынкі санктуарыя ў яе гонар.

На месцы, падараваным Грыгорыем Контэ Тускалійскім *(Gregorio Conte di Tuscolo)*, манахі распачалі закладку першага фундаманту манастыра, выкарыстоўваючы пры гэтым рэштткі антычнай рымскай вілы.

Царкву і манастыр манахам давялося будаваць дваццаць гадоў. У 1024 годзе ўзьвядзеньне санктуарыя было закончана. Пра яго гаварылі, што ён "надзвычай цудоўны, упрыгожаны мармурам і росьпісамі, багаты на царкоўныя рэчы, ён усіх уражваў". 17 сьнежня гэтага ж году Папа Ян XIX прыбыў на Тускалінскія халмы *(dei Collnti di Tuscolo)* і зьдзейсьніў яго ўрачыстае асьвячэньне і прысьвяціў яго Багародзіцы. Падчас урачыстасьці манахі сьпявалі царкоўныя гімны па-грэцку, якія склаў на гэты выпадак сам Баўтрамей.



З часам манастыр стаў важным культурным цэнтрам. Адбылося гэта дзякуючы капіявальнікам, што ішлі ўсьлед за прыкладам сьв. Ніла, які быў сам кніжных справаў майстар, а рыхтавалі яны рукапісы пераважна тыя, якія захоўваліся ў бібліятэцы манастыра.

*Паводле інфармацыі, разьмешчанай на сайце www.abbaziagreca.it*

*Падрыхтаваў* **Андрэй БУЙНІЧ**

Алесь ТРАФІМЕНКА

# Укрыжаванае сэрца

### *Тэалагічныя інсьпірацыі творчасьці Ўладзіміра Караткевіча*



*Сёлета спаўняецца 20 гадоў з дня сьмерці выдатнага беларускага пісьменьніка Ўладзіміра Караткевіча. Ён быў адным з першых прадстаўнікоў беларускай літаратуры, які пасьлядоўна і мэтанакіравана пачаў распрацоўваць гісторыю свайго народу, якая значна адрозьнівалася ад афіцыйнай гістарыяграфіі. Караткевіч лічыў, што гісторыя народу павінна быць часткай асабістага вопыту кожнага чалавека, паколькі мінуўшчына мае беспасярэдні ўплыў на цяперашняе, а гэта значыць на будучыню. Як закід сучасьнікам гучаць словы аднаго з герояў «Каласоў пад сярпом тваім»: «Варты жалю той, хто ня ведае былога дня і таму ня можа разабрацца ў сёньняшнім і прадбачыць будучы... Абыякавы да мінулага ня мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай, і таму ёсьць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную сьмерць. Усё адно хто гэта — чалавек ці народ».*

Творчасьць Уладзіміра Караткевіча, пры ўсёй сваёй традыцыйнасьці, зьяўляецца ўсё ж даволі арыгінальнай у беларускай літаратуры. Паколькі ў тагачаснай савецкай дзяржаве пісьменьнікі лічыліся «інжынерамі людзкіх душаў», якія фармуюць іх у духу сацыялістычнага рэалізму, а свае ўласныя сэрцы павінны былі аддаць камуністычнай партыі, цяжка было застацца сабой і не пачаць пісаць супраць уласнага сумленьня. Ён жа быў сярод нешматлікіх, якія разумелі, што без патрыятычнага і гуманістычнага выхаваньня моладзі, без прапагандаваньня найлепшых дасягненьняў сусьветнай культуры, немагчымае далейшае духоўнае разьвіцьцё народу. Актуальныя праблемы духоўнага жыцьця чалавека, маральныя асновы і каштоўнасьці народу разглядае Караткевіч у сьвятле дасягненьняў усяго чалавецтва. Уся яго творчасьць выяўляе ў ім пісьменьніка глыбока самабытнага і адначасова беларускага, тым ня менш, скіроўвае яна чытача да разважаньняў над агульначалавечымі праблемамі. Адзінства асобы, народу і ўсяго чалавецтва Караткевіч выражае ў вельмі характэрны для яго творчай манеры спосаб: «...мудрасьць ня ведае розьніц народаў, моваў, веры».

Разважаючы над гэтай праблематыкай, пісьменьнік шырока карыстаецца і распрацоўвае ў сваіх творах рэлігійныя сюжэты і матывы. Гэта таксама вылучае яго на фоне тагачаснай літаратуры. У сваёй творчасьці Караткевіч часта натхняўся разважаньнямі над біблійнымі і рэлігійнымі крыніцамі, але адначасова сам натхняе чытача да рэлігійных пошукаў і багаслоўскіх разважаньняў. Распрацоўка рэлігійных матываў таксама не зьмяшчалася ў рамках афіцыйнай паэтыкі, але ў няязьнішчанай сістэмай сьвядомасьці вечная ўсюдыпрысутнасьць Бога цесна спалучалася з патрыятызмам у мастацкай літаратуры. Абедзьве гэтыя ідэі былі тады дысідэнцкія: хрысьціянская — бо сама рэлігія лічылася «опіумам для народу», а таксама нацыянальна-адраджэнская — бо незалежная Беларусь ня месьцілася ў савецкай парадыгме інтэрнацыяналізму і канцэпцыі будучага «зьліцьця народаў». Паказальным у тыя атэістычныя часы быў выраз Караткевіча з яго аднайменнага вершу: «На Беларусі Бог жыве».

Выкарыстаньне рэлігійных матываў, а ў першую чаргу матываў біблійных, дазваляла пісьменьніку ня толькі засяродзіць увагу на розных аспектах грамадзкага жыцьця, але таксама лепш адчуць і зразумець яго глыбіню, з якой урэшце вырастае рэлігійная вера. Прызнаючы ўсё тое, што ёсьць у чалавеку боскае — Слова, Любоў, Мудрасьць, Жыцьцё — ён, аднак, не стаў апалагетам рэлігійных ідэяў, бо лічыў, што рэлігійнасьць чалавека не вызначаецца веданьнем Бібліі ці праўдаў веры, але выплывае з самой прыроды чалавека, яго Чалавечнасьці. У гэтай сувязі характэрнай зьяўляецца размова Караткевіча з архібіскупам Менскім і Беларускім Антоніем (Мельнікавым), які адкідваў абвінавачваньні пра блюзьнерчы характар творчасьці пісьменьніка. Архібіскуп сьцьвярджаў: «Караткевіча цікавяць ня столькі пытаньні рэлігіі і атэізму, колькі пытаньні чалавечай асобы і яе адказнасьці перад гісторыяй». Пазьней Караткевіч, запытаны ім, ці добра бараніў яго перад абвінавачваньнямі, адказаў: «Канечне... Я ня быў бы мастаком, калі б пісаў голыя агіткі. Мяне сапраўды больш цікавіць, хто такі чалавек і чаму ён можа мець уладу над іншым чалавекам, чым розныя канфесійныя праблемы. Праз гэтыя праблемы ў гісторыі майго народу было столькі войнаў, столькі трагедыяў...».

Пісьменьнік заглыбляецца ня толькі ў дзеі людзкой гісторыі, цікавіць яго ў першую чаргу сам чалавек і яго глыбіня. Ён шукаў надзейныя крытэрыі ацэнкі паводзінаў чалавека і ўсяго яго жыцьця. У хрысьціянстве такім канчатковым крытэрыем зьяўляецца Хрыстос, які асьвятляе сумленьне чалавека, каб дапамагчы яму распазнаць грэх. Для Караткевіча гэтымі крытэрыямі зьяўляюцца: найвышэйшыя пачуцьці любові, болю душы, патрыятызму, без якіх не ўяўляе ён сабе паўнавартаснага існаваньня чалавека. Самае важнае, паводле яго, — адносіны паміж людзьмі на падставе чалавечнасьці, якая вызначаецца маральным законам, прынятым людзьмі на працягу гісторыі. Пісьменьнік не гаворыць непасрэдна пра паходжаньне гэтага закону ад Бога, але пра чалавека, які разважае над гэтым законам, і гэта прыводзіць яго да ідэі Бога, як падставы ўсялякага закону. У выніку — без любові Бога няма й чалавечнасьці.

(Працяг на с. 4)

# Віншуем!

Віншуем нашага брата **АНДРЭЯ КРАТА** з *Івацэвічаў* з пасьпяховай абаронаю магістарскай працы па фундаментальнай тэалогіі на тэму ***«Апалагетычная двейнасьць Фабіяна Абрантовіча»***. Магістарская праца напісана і абаронена на Папскім тэалагічным факультэце ў Варшаве пад кіраўніцтвам айца доктара Рамуальда Коска.

Рады павіншаваць таксама **АЛЕСЯ ТРАФІМЕНКУ** з *Менску*, які пасьпяхова абараніў магістарскую працу на тэалагічным факультэце Апольскага ўніверсітэту (Польшча). Тэма працы: ***«Разважаньні пра народ у творах Уладзіміра Караткевіча. Спроба тэалагічнай інтэрпрэтацыі»***.

# Укрыжаванае сэрца

*(Заканчэньне са с. 3)*

Любіць жа можна толькі асобу. Гэта вядзе да асабовай сустрэчы з Богам.

Часта ў сваіх творах Караткевіч набліжае біблійны зьмест да рэчаіснасьці штодзённага жыцьця, пераказваючы такім чынам ідэі вышэйшага парадку. Так, напрыклад, у вершы «Самсон» ён паказвае біблійнага героя як звычайнага юнака, якому не чужыя штодзённыя радасьці і турботы. Ён бароніць у часе небясьпекі свой край ад ворага, аднак, у адрозьненьне ад свайго прататыпу, у цяжкі момант зьвяртаецца па дапамогу не да Бога, а да роднай зямлі. Ідэя сьвятасьці радзімы, якая прысутнічае ў творах Караткевіча, мае сваё месца ў іерархіі: я – бліжні – народ – радзіма – чалавецтва – сусьвет – Бог. З яе вынікае, што любоў да радзімы немагчымая без любові сябе самога, бліжніх, свайго народу, і ўжо толькі гэтая любоў набліжае чалавека да Бога, да паяднаньня з Ім. Увесь гэты патрыятызм не даводзіць, аднак, Караткевіча да прызнаньня вышэйшасьці свайго народу над іншымі народамі. Наадварот, ён прыходзіць да сьцьверджаньня, што кожны народ, пры ўсёй сваёй непаўторнасьці і каштоўнасьці, мае за радзіму Зямлю, а усё чалавецтва мае супольнага продка і аб'яднанае супольнай гісторыяй. Для пісьменьніка мінулае і цяперашняе цесна паміж сабой зьвязаныя, яны залежныя адзін ад аднаго, бо вызначаюць ход гісторыі сьвету і ўсю яго будучыню.

У сваім апошнім зборніку вершаў «Быў. Ёсьць. Буду» (1985), які падсумоўвае ўсю яго творчасьць, Караткевіч напісаў:

*«Быў. Ёсьць. Буду.*
*Таму, што заўжды, як праклятьі,*
*Жыву бяздоннай трывогай,*
*Таму, што сэрца маё расьпята*
*За ўсе мільярды двухногіх».*

У цэнтры, аднак, ня ён сам, не яго асоба, але чалавека наогул, які створаны на вобраз і падабенства Божае, мэтай якога зьяўляецца нястомнае пазнаньне праўды пра сябе і пра мэту свайго жыцьця – станавіцца з кожным разам больш падобным на свой Правобраз. Калі ж Уладзімір Караткевіч піша, што «сэрца маё расьпята за ўсе мільярды двухногіх», ён як бы сьцьвярджае новазапаветную навуку абагаўленьня чалавека. Гэтым адначасова вызначае сваё крэда як паэта, бо паэт, творца, зьяўляецца прарокам, якому лёсам наканавана ўзьнесьціся да пазнаньня вышэйшай праўды і сказаць гэтую праўду свайму народу, а ад імя свайго народу ўсяму сьвету. Трэба, аднак, заўважыць, што, прызнаючы і ўсхваляючы боскасьць у чалавеку, Караткевіч не прызнае нявольніцкага падпарадкаваньня, а таксама ўлады аднаго чалавека над іншым, якая стае часам большая за ўладу Бога. Прызнаючы свабоду чалавека найбольшай каштоўнасьцю, якую шануе сам Даўца гэтай свабоды, супраціўляецца ён паднявольваньню чалавека, якое робіцца кімсьці ў імя Бога.

Іншая несумнеўная каштоўнасьць для кожнага чалавека, паводле Караткевіча, – гэта Радзіма, якая зьяўляецца сьвятыняй, дзе жыве сам Бог. Пісьменьнік бачыў хрысьціянскія карані ў ментальнасьці і культуры беларусаў, заўважаў вялікі ўплыў хрысьціянства на ўласны народ. Калі ж сьцьвярджаў, што «на Беларусі Бог жыве», меў на ўвазе, што жыве Ён на зямлі кожнага народу, бо кожны народ створаны Богам і ўносіць свой уклад у агульначалавечую гісторыю, а таксама ў аднолькавай ступені кожны народ служыць адзінаму Богу, перад Абліччам якога ўсе роўныя.

Уладзімір Караткевіч застаецца адным з найбольш папулярных беларускіх пісьменьнікаў. Яго творчасьць па-ранейшаму мае значны ўплыў на фармаваньне сьвядомасьці беларусаў. Праблематыка народу ў яго творах беспасярэдне закранае рэлігійнае і царкоўнае жыцьцё ў Беларусі. Часта для шматлікіх асобаў, што знаходзяцца яшчэ па-за Царквой, адносіны той ці іншай Царквы да нацыянальнага пытаньня маюць вырашальнае значэньне пры выбары імі царкоўнай супольнасьці, да якой хочуць належаць. Адсюль таксама зацікаўленасьць тэолагаў гэтай праблемай і творчасьцю Ўладзіміра Караткевіча ў прыватнасьці, бо тэма народу – галоўная для пісьменьніка.

Напачатку 2004 году на тэалагічным факультэце Апольскага ўніверсітэту (г. Аполе, Польшча) была абаронена магістарская праца на тэму «Разважаньні пра народ у творах Уладзіміра Караткевіча. Спроба тэалагічнай інтэрпрэтацыі». Спадзяемся, што будзе яна першай ластаўкай у тэалагічнай распрацоўцы творчасьці ня толькі Ўладзіміра Караткевіча, але таксама іншых выдатных беларускіх творцаў.

**РАЗАМ № 3 (15) - 2004**
**дадатак да газеты «Царква», № 3 (42)**

**Над нумарам працаваў:**
Андрэй БУЙНІЧ



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam_bgkc@tut.by**

a1.Andrej Bujnicz
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA